# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 13-14

# 10 ГОД

## ВЫЗВАЛЕНЬНЯ Б.С.С.Р. АД БЕЛАПАЛЯКАЎ



Фото Ул. СЕМЯНЯКІ і Т. БУНІМОВІЧА

На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г. На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г.

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА

## НА ЎСЕ ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ ПЭРЫЯДЫКІ

| Назва выданьняў | Характар | Пэрыядычнасьць | Умовы падпіскі: | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 м-ц | | 3 м-цы | | 6 м-цаў | | 1 год | |
| Бальшавік Беларусі . . . | Ворган ЦК КП(б)Б. | Штомесячн. | — | 35 | 1 | 05 | 2 | 10 | 4 | 20 |
| Партыйны работнік . . . | ,, ,, ,, | Двухтыднёв. | — | 25 | — | 75 | 1 | 50 | 2 | 75 |
| Іскры Ільліча . . . . . | Ворган ЦК ЛКСМБ | Штомесячн. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Бюлетэнь СНК . . . . . | Ворган СНК БССР | Па накаплен. матэрыял. | — | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Маладняк . . . . . . | Літ.-мастацк. час. | Штомесячн. | — | 30 | — | 90 | 1 | 60 | 3 | — |
| Узвышша . . . . . | Літ.-мастацк. і крытыкі | На год 10 нум. | — | — | — | — | 3 | — | 5 | — |
| Сельская і лясн. гаспадарка | Ворган Інстытуту імя Леніна | На год 6 нум. | 2 | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Савецкае будаўніцтва . . | Ворган Дзяржпляну | Штомесячн. | — | — | 2 | — | 4 | — | 7 | 50 |
| Паляўнічы Беларусі . . . | Ворг. Белпрамкооп-саюзу Паляўнічых | Штомесячн. | — | 30 | — | 70 | 1 | 20 | 2 | — |
| Беларуская работніца і сялянка . . . . . . . | Ворган жанаддзелу ЦК КП(б)Б | Двухтыднёв. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Збор законаў і загадаў. . | Ворган ЦВК БССР | У 2-х аддз. | — | — | — | — | 5 | — | 10 | — |
| Шляхі калектывізацыі . . | ,, НКЗ і Белкалгассаюзу | Штомесячн. | — | 20 | — | 60 | 1 | 10 | 2 | 20 |
| Комуністычнае выхаваньне. | Ворган НК Асьветы | ,, | — | 80 | 2 | 30 | 4 | 50 | 8 | — |
| Наш край . . . . . . | Ворган ЦБ Краязн. | ,, | — | 50 | 1 | 25 | 2 | 25 | 4 | — |
| Штэрн . . . . . . | Яўр. літар.-мастац., політычн. часопіс | ,, | — | 60 | 1 | 50 | 3 | — | 6 | — |
| Часопіс „ПОЛЫМЯ" . | Літар., політ., эконо-міка і крытыка | ,, | 1 | — | 3 | — | 5 | — | 10 | — |
| Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" | Мастацка-ілюстрав. часопіс | Двухтыдн. | — | 30 | — | 75 | 1 | 50 | 3 | — |

Гадавым падпішчыкам даецца растэрміноўка на часопіс „Полымя": пры падпісцы—4 р., 1-га верасьня—3 р., 1-га лістапада—3 р.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: Бюро Падпіскі БДВ, Ленінская, 19, тэл. 17-12; Цэнтр. Кнігарняй, Ленінская, 19, тэл. 95; Усімі акруговымі аддзяленьнямі БДВ; Газэтным Бюро; Аддзелам Падпіскі ГІЗ'а РСФСР і ўсімі нашымі ўпаўнаважанымі, маючымі адпаведныя пасьведчаньні.

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

N 13-14

ліпень 1930

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.
Тэл. 7-41




## ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ АД БЕЛАПАЛЯКАЎ



## 1920 ЛІПЕНЬ 1930

АПАВЯДАНЬНЕ СЫМОНА БАРАНАВЫХ

МАЛЮНКІ АЗГУРА

# БОРА НОХІМЧЫК



... Усё возім,—адказаў мне Бора...

Я СТАЯЎ на пляцу Волі і глядзеў як ішлі адна за другою колёны.

— Гах, гах, гах...

Вецер варушыў сьцягі. Блытаўся ў іх чырвоным палатне, карбаваў іх, пярэсьціў.

Дзень быў сьветла-сонечны, майскі. Усё наўкол кішма-кішэла, жыло, хвалявалася.

Адна за другою ішлі, ішлі колёны... па Ленінскай, па Савецкай ішлі роўным, памерным і цьвёрдым тахтам.

— Гах, гах, гах.

Над галовамі тысяч людзей адыходзілі то ўперад, то назад—аэропляны. Яны зусім лёгка і бясклопатна давалі нырца ў шкляной і глыбокай паветры: кулём куляліся цераз галаву—як качка ці гусь—пакідаючы на сваім пер'і кроплі крыштальнай расы. І на недасяжнай вышыні пропэлерны гул іх злучаўся з гулам зямлі.

...Мы ма-ла-ала-да-я армія

Рабо-очых і-ы сялян...

— Колькі жыцьця... Колькі радасьці складзенай разам... А таму такая і вялікая радасьць,—разважаў я гледзячы на адну, на чацьвертую, на дзесятую—колёны.

А яны ішлі.

І вось калі разважаў я, глядзеў на іх,—перад маімі вачыма вельмі выразна, у першым шэрагу адной з колён, з краю,—вельмі выразна паўстала постаць Боры Нохімчыка... майго найлепшага, майго добрага таварыша і аднагодца.

* * *

Была трэцяя вясна вайны, калі нас, па думцы Борынай маткі, пазваў на абарону „бацькаўшчыны" наш валасны старшыня. Матка Борына казала, калі я зайшоў быў за ім, каб разам ехаць у валасьць на збор, на адпраўку... Яна казала да яго, калі мы выходзілі з хаты—стаяў ён на сваім абгніўшым парозе карчмы:

— Сынок... Мой сынок... Каб ня гэты валасны недавярак, ты дома-б быў. Сыночак ро-од-ненькі-ы...

І яна залілася тады сьлязьмі. Кінулася да парога, ахапіла яго ногі і галасіла:

— Сыночак... а ці ўбачу-ж я цябе. ці ўба-ачу-у...

Бацька Борын, насупіста маўчаў. Бачыў я як глядзеў ён у адзін пункт—мусіць на „казачок", якім было занітована разьбітае шкло шыбы—глядзеў і маўчаў.

Бора сказаў тады да сваёй маткі:

— Ня трэба плакаць. Я-ж не адзін іду... Усе ідуць... Я вярнуся хутка... Вайна скончыцца хутка... Мама...

І яго словы адчуў я—разьмяклі, разжыжалі, расплыліся ўва ўсе бакі, як хэмічна аловачная рыса ад вады.

Ён тады за адзін раз выйшаў з старой карчмы і мы пайшлі. Хутка пайшлі. І я ведаў чаму ён так сьпяшаецца:—каб хутчэй адыйсьці ад карчмы, ведаў я Борыны думкі; адыйсьціся ад яе штодзенна перапоўненай горам і бядою, якая толькі і магла, здаецца, знайсьці прытулак у гэтай абгніўшай асеўшай у зямлю, высівераўшай будыніне.

Была вясна.

Хацелася жыць. О, як хацелася жыць маладою вясною. Жыцьцё, адзінае незваротнае жыцьцё.

Дзень тады быў, як ніколі, празрыста яркі. Сонца ў той дзень не прыпякала, а лашчыла сваімі мяккімі, як маладая атава, праменямі. Пелі птушкі. Жыла радасьцю ўся прырода. І от гэтым жыцьцём прыроды вельмі-ж хацелася жыць, дыхаць ім, адчуваць яго вясельна-маладую бязьмернасьць: піць, піць яго.

З Борам Нохімчыкам я пазнаёміўся 'шчэ ў нашым дзяцінстве. Яго бацькі аддалі былі яго ў „хлапчукі" да іхнага местачковага суседа Баса. Бас гандляваў запалкамі, іголкамі, селядцамі, паркалёвымі хусткамі, шпількамі, стракозамі, тутунём... Бора быў гадручным хлапчуком у Баса. Прыяжджаючы ў вёску, Бас станавіўся з возам тавару пасярэдзіне вуліцы, а Бора ішоў ад хаты да хаты, ішоў і крычаў, барабанячы пугаўём па штакетах:

— Бабы, бабы... анучы, шчаціньне, вашчыньне... Прадаюцца шпількі, іголкі...

Бабы ведалі Бору і, пачуўшы яго голас, казалі:

— Бас прыехаў... Борка крычыць...

— Шукай ануч у запечку... Зьбірай... Мыла трэба ўзяць, апалак...

— Ідзі паглядзі, Дар'я, за кубельцам, у каморы... там нямытая старуга, старая, палатаная старызна... аддай.

Вось у адзін з такіх наездаў я і пазнаёміўся з Борам.

Надыходзіла вясна.

З капяжоў апускаліся да зямлі апошнія кроплі самлеўшага сьнегу. Бегла вада, журчэла ў раўчуках, напірала сваімі вадзянымі грудзьмі наперад, наперад,—некуды, нібы за нейкаю пільнаю патрэбаю.

Я прачышчаў адзін з гэтых раўчукоў, каб спусьціць напор вады. Я скрэбаў рыдлёўкаю, трымаючы яе падраньцвеўшымі ад холаду рукамі, як:

— Бабы, бабы,—пачуў я чутны ўжо некалькі разоў знаёмы голас. Я паставіў маю рыдлёўку і падыйшоў да варот, адчыніў іх. Бора мінуў нашу хату.

— А што вы возіце?—запытаўся я, углядаючыся ў яго твар.

— Усё... возім...—адказаў мне Бора. І я ўбачыў на яго вачох сьлёзы. Бора прыпыніўся на момант, нібы штосьці хацеў сказаць мне, але ня мог. Адна, другая—буйныя і цяжкія як волава с'ацяліся яны па яго шчоках, на яго ватовы абшарпаны лапсардак з закасанымі рукавамі.

— Чаго ты?—запытаўся я ў яго з адчутым жалем у сваім голасе.—Што ты... зьмёрз можа... Рукі табе, пакрэплі, можа...

Але Бора нічога не адказаў мне. Ён пайшоў да другой хаты, да трэцяй... Я чуў як ён падыходзячы да хаты крычаў знаёмыя мне словы.

— ...анучы, анучы...

* * *

Мне хацелася ведаць чаго плакаў Бора. Я зачыніў за сабою вароты і падышоў да воза, дзе прадаваў Бас свае тавары. Бабы абступілі воз і таргаваліся з Басам. Бора стаяў каля каня і пугаўём падкідаў сена ў адну кучку, што ядучы конь растрасаў пад ногі.

Я падышоў і заглянуў у худы Борын твар: сьлёз на вачох у Боры цяпер ня было. Былі прыкметны толькі тыя рагі, па якіх відаць было спадалі кроплі. Я глядзеў цэлы момант на яго твар, але ён не паднімаў сваіх вачэй... поркаў пугаўём растрэсенае сена.

У кішэні маіх шарачковых штаноў быў кавалак хлеба, што ўзяў я з-пад абруса ідучы на двор:—калі захочацца есьці...

— Ты мусіць хочаш хлеба...—мацаў я ў кішэні кавалак хлеба, нагрэты цяплынёй майго цела.—Дык вось... зьеш, калі хочаш. На-аж, бяры...

Бора ня зразу зразумеў. Ён паглядзеў на мяне і падазроным зіркам.

— Бяры...—сунуў я кавалак у Борыны рукі.

— Можа ён трэфны... можа ты зводзіш мяне...—сказаў Бора голасам зьбянтэжаным, нерашучым.

Але ўбачыўшы выраз майго невінаватага твару, Бора дабавіў:

— Мне трэфнага ня можна есьці. Дзядзька Бас...

Я не разумеў Борынага слова „трэфнае". Я зразумеў, што Бас не дае яму хлеба... адбірае ад яго. І я параіў яму:

— А ты еж, каб ня бачыў твой дзядзька. Вазьмі от ды і зьеж, калі пойдзеш па падваконьню... Калі ён гэтакі...

І я пабег ад яго на свой двор. Я пабег, каб не перашкаджаць яму, каб не сароміўся ён мяне, што я даў яму кавалак хлеба.

Так я пазнаёміўся з Борам.

Борыны бацькі жылі ад нас **за тры вярсты.**

Мы часта ўлетку сустракаліся з ім.

Хадзілі разам на нашу рэчку Гнаяўку вудзіць рыбу.



**— ...Бора .. Мой добры Бора, калі ўбачу цябе?..**

II

З воласьці нас накіравалі ў павет. Адтуль на станцыю і мы—паехалі. Так паехалі, як едуць у вагоне жывёлы. Жывёлы едуць у разьніцу, а мы...

З жывёлы мяса для штодзеннай чалавечай патрэбы...

— Браткі мае, — хацелася крыкнуць скрозь адчыненыя дзьверы таварнага вагону.— Родныя...—на ўвесь сьвет хацелася крыкнуць.—Мы людзі, а ня жывёлы...

Словы ня зрываліся з вуснаў, а затыхаліся недзе ў пякучым нутры, у сярэдзіне—гасьлі словы... Нібы хтосьці ліў на іх ваду з помпы.

А цягнік імчаўся наперад і наперад—усё бліжэй і бліжэй вёз... падвозіў да чалавечай сьмерці.

* * *

Была восень. Пачыналі асыпацца лісты.

— Так шмат часу прайшло,—разважаў я седзячы на фурманцы.—Шмат... І шмат зроблена... Вінцэсю нашаму, мужу Тэклінаму, адарвала знарадам ногі... Арцёму Лявончыну—прастрэліла руку... Рыбцаўскі Герасім нахапаўся яблычнага паху і цяпер, як здань—жоўты і худы ходзіць, ціханька, сам сабе, пакашліваючы... Аб гэтым расказаў мне, сёньня сустрэўшы мяне, Цімох. З нашай вёскі чалавек. Я яго сустрэў тут у абозе. Колькі, колькі было радасьці свайму чалавеку.

— А дзе-ж Бора Нохімчык?— Запытаўся ў мяне Цімох.— Карчму спалілі пры адступленьні... белапалякі. Старыя—у падсуседзях **у Аўласа...**

**— ...**

У мяне была перавязана правая частка маёй галавы белаю марляю. Марля закрывала маё правае вока і я, едучы далей на фурманцы, мог разглядаць толькі левы бок дарогі.

Асыпалася жоўтае лісьцё з бярозавых прысад. Заходзячае сонца пазлацала яго ў апошні раз. Лісьце падала далоў, на ліпкую гразь, як непатрэбнае, як абарванае і толькі для таго, каб даць месца новым выскачыўшым пупышкам, новаму будучаму лістку. Тады фурманка праходзіла па ліпкай гразі і колы затоптавалі лісты аж на самае дно.

Я глядзеў на роў, які быў збоку, каля дарогі і бачыў, як па яго насыпах праходзілі крыжы... маленькія і вялікія.

— Бежанцы...—Сам сабе ўслух выказаў думку.—Колькі іх тут... Адкуль яны... дзе жылі яны... Хто...

А за крыжамі, паводдаль іх—за прысадамі, відаць быў уздуты конь. А яшчэ цераз некалькі крокаў—ляжала на вале канавы невашта збэрсанае: косьці нейчыя, ці што.

Зірк мой пачынаў мітусіцца: утамілася маё вока. Мне пачынала балець галава. Здаецца, пачынала цячы кроў з маёй раны. Бо я адчуў яе—ліпкую, цёплую, прыкрую.

— Няхай сабе... Але-ж я тут... у сваіх... *У сваіх*...

— **А** Бора?.. Тыдзень сёньня, калі растаўся я з ім.

* * *

Гэта было тыдзень таму назад. Надакучліва штабнаваў кулямёт. Дзень быў хмуры, а таму і вецер ад асеньня-мутнага дню быў густы, цёмны.

Была чацьвертая вайсковая наша восень. Мы разлучыліся за гэты час з Борам і ізноў сустрэліся. І заўсёды сустракаў я яго з ухмылкаю на твары, з чорнымі, тымі самымі, ня зношанымі брывамі. Здавалася, гэты чалавек ніколі ня мог змарыцца, паскардзіцца. Ён быў здаволены. Ён рад быў што...

Казаў ён:

— Яшчэ крыху і яшчэ... прыкончым.... аддыхнем. Няхай ня чэпяцца.. Як тыя восы. Заядлыя, а рэволюцыя не падасца. Рэволюцыя на тандэт не рабілася... параскашаваліся, хопіць...

Ён сказаў ціхім, але ўпэўненым голасам. Ён ня любіў шмат гаварыць.

Мы сядзелі з Борам у канцы лесу. Ноч была густа-цёмная. Верхавіны хвой гаманілі нудна, працяжна. Асеньні вецер ночы страпаўся ў хваёвай кары.

Мы былі ў разьведцы. Балахоўцы маглі напасьці на нашу заставу. Камандзір роты, чарнамазы, высокі аўстрыяк сказаў пры нашым адходзе:

— Хлёпцы... вы, хлёпцы, ведаеш, это развэдка. Ведаеш шо ест такэ? Мая вас пасыла: гляды хлёпцы ны качаць. Балахоў хітрая... А калы што: зьеш язык свая. Мілч.

Мы седзячы прыслухоўваліся да найменшага шораху. Мы кідалі нашы зіркі на поле ад лесу: стараліся чуць і бачыць. Мы былі на пярэсмыку парог, што разыходзіліся ад мосту, ад рэчкі.

Шум лесу рос, дрыжэў і калыхаўся.

— Мы павінны перайсьці цераз мост...—сказаў Бора.— Падыйсьці да вёскі. Даведацца. Ноч вельмі-ж добрая.

— Та-ак... гэта наша заданьне.

І мы краліся да мосту. І мы перайшлі яго. І мы адыйшлі з гоні, з двое гоні...

— Ах, якая добрая ноч.

— Але што гэта?—Мы ў адзін тахт нашых думак запыталіся самі ў сябе.—Ражны...

Людзі паднятыя з зямлі нібы спружынаю...

Два... тры... пяць...

Людзі з пагонамі, без пагон. Гэта роўна.

**Ах, якая цёмная ноч.**

* * *

Нас прывялі ў вёску Гарохава, што ішлі мы ў яе, каб разьведаць. Нас здалі іхнаму малодшаму камандзіру пад расьпіску, ўсёроўна як важны які-небудзь, заказны, з лакавымі пячаткамі пакет. І мы засталіся ў іх начаваць... У цёмным і халодным вясковым пажарным хляве.

Цяпер было ўсёроўна для нас: ныла наша цела і вельмі-ж хацелася спаць. Думкі былі зьбітыя з трыбу: галава была пустая, як чэрап.

— Што зробяць з намі?—сказаў Бора кладучы галаву на аглаблю пажарнай двуколкі.

І я адучваў, што Бора так пытае аб гэтым. Для таго пытае, каб хоць сказаць што, абы што: Бора няхоча чуць... ды ён ведае што я не адкажу яму... На што адказ той, калі мы разумеем адзін аднаго... бяз слоў. А тут—такая млявасьць, так спаць хочацца, так ные ўсё цела... Бо: усё роўна...

... Раніцою мы ўбачылі на двары, на вуліцы яшчэ пяць чалавек... Нашых—у шлемах, з пяцікантоўкамі...

— Дзіўна...—Мармоча Бора.—Як яны...—І мы ізноў глядзім абыякавым зіркам на ўсё.

А *яны* настроілі нас—сямёх цяпер—пасярэдзіне двара, што на вотшыбе быў у Гарохаве... Камандзір *іхны* — нізкарослы, тоўсты, вусасты, з шрамам над брывою — падышоў да нас... паглядзеў на кожнага сваімі праразьлівымі зрэнкамі, прайшоўся... ды:

— Хто жыд:—тры крокі ўперад—выйдзі.

Мне хацелася тады развважаць: на што такая вялікая каманда над адным, над двума чалавекамі? Але я глянуў на Бору...

— О, я недзе бачыў выраз гэтага твару... успомніўся... бачыў... Я цяпер не забудуся на гэты выраз... Твар быў на момант зрабіўся доўгім, скрыўленым, жахлівым. Жах быў падобен ні то да жаху чалавека ступіўшага нагою на абрыў, ні то на цень помсты—глыбокай, як чорная студня.

Бора выйшаў з шэрагаў. За ім—выйшаў яшчэ адзін чалавек. Я ня бачыў твару другога гэтага чалавека. Мне хацелася бачыць—наглядзецца на Борын твар, мне хацелася запамятаць яго моцна, назаўсёды.

... І іх двох павялі сярэдзінаю вёскі. Ня ведаю куды: мо' да начальніка, а мо' так да чаго...

— Бора... Мой добры Бора, калі ўбачу цябе?

* * *

... Таму я і ня мог адказаць Цімаху.

— Ня трэба... Гэтак можа лягчэй...

Калі я сядзеў на фурманцы і ехаў—мне прышло на памяць дзе бачыў я такі выраз Борынага твару. Гэта было ў нашым дзяцінстве. Мы ўдвох вудзілі рыбу каля старой навіслай вярбы.

Быў ціхі тады надвячорак. Зьбіралася заходзіць сонца за ваколічны лес. Вада пад яго сьлізготныя праменьні блішчэла сяміцьветам старадаўняга шкла. Нашы нямыя паплаўкі цаlavаліся з ёю: чуць-чуць лагодна і ціха.

— Гэй, ты: Моталэ-боталэ...—парушыў ціхату нашых паплаўкоў чалавек.

Мы былі шчасьлівыя спакоем, а таму раптоўны голас ззаду ў нас—калючым ахапкам, за момант, перабраў нашу цела: гаварыў Ярэма—гаспадар, што жыве хутарам за нашай вёскаю.

— ... Скажы ты, боталэ, свайму бацьку,—гаварыў стоячы на павароце д рогі ад рэчкі, — скажы, каб аддаў ён мне рубля альбо гарох мой вярнуў... Я ня буду... Ці мо' ён думае, што я буду хадзіць за сваім, тым...

І ён пашоў, быў, сплюнуўшы моцна.

Я глянуў тады ў твар Боры... І от я ўспамінаю цяпер, той самы выраз на твары: скрыўлены выраз твару, глыбокі і востры. Такі самы як і на двары ў Гарохаве...

Бора сказаў, быў, тады:

— Чаму ён так кажа...

І я ня ўмеў яму адказаць, ведаючы адказ.

— Гэта былі людзі аднаго нечалавечага сэрца...—ужо развважаю я пасьля таго, як ехаў, быў, на фурманцы маёй: Бо: няўжо зьнявага чалавека чалавекам каштуе адзін рубель, альбо паўпуда гароху?

З таго часу, як росстань была з Борам у мяне—дзе-б я ня ішоў, мне здаецца, што я сустракаюся з ім. Усюды, дзе бачу я шмат людзей—мне ўяўляецца, што і Бора там, пасярод іх.

Вось таму і паказалася мне: Бора, здаецца ішоў у першым шэрагу адной з першамайскіх колён.

— А хто ведае: можа ішоў... Можа брат яго ішоў...



... Ведаеш шо ест такэ? Мая вас пасыла: гляды, хлёпцы, ны качаць.

# У ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ

**Юрка Лявонны**

Дзесяць год скакнулі,
быццам коні...
Адышлі ў нябыт бізун і пан.
А ляцеў-жа некалі ў разгоне
па-над краем змучаным улан.
Вогнішча чырвонае з аддалі,
гарады цярпелі ад чужых
і за вёскамі
бяз ліку выраслалі
драўляныя, шэрыя крыжы.
„Orzeł biały“ ўсюды на варотах,
пастэрунак, шомпал і агонь...
на крутым, вялікім павароце
мы зламілі
чорнай сілай бронь.
І цяпер
пакутлівыя краты—
як нямая, зьнішчаная здань...
Тут ня будзе болей прыгнаятых,
тут пануе ўзьвесьненая рань!
Тут размахі творчых будаваньняў
новы дзень
як сонца спатыкай!
У высокім лесе рыштаваньня
апынуўся наш савецкі край.
Беларусь—краінаю свабоднай...
Эра новая...
Вітаньне змагаром!
...Толькі там, за рубяжом, за родным
захавана зорка пад гарой.
У вяльможнай Польшчы—
гніль і цемра,
афіцэрства, біскупы—і ноч...
Правяць рукі белакостнай хэўры
бізуном, прыгнётам і вайной.
Там спрадвеку сосны Белавежа
аб сьлязох і крыўдзе так шумяць...
Брат Заходні!
Выйдзі на паўзьмежак
ўзяць уладу, долю і імя!

# БУДУЕМ ВІЦЕБСКІ ПАНЧОШНА-ТРЫКАТАЖНЫ КОМБІНАТ



ФОТО САЛАВЕЙЧЫКА

# ДУКОРА

НАРЫС ЦІМАХА ЗАРЭЧНАГА
▪▪▪▪▪ ФОТО МАЗЕЛЕВА



Там, дзе былі пакоі пана Гартэнга—сямігодка імя 16 партызан.

НЕХТА злосны і бязьлітасны кіпцюрамі падрапаў неба, і цяпер яно — бяз канца і краю — парвана на шмацьцё, пасечана на ласкуты. З ласкутоў—мутных і закопчаных — на зямлю падае дождж,— цёплы, вясновы,—радуюцца сяляне за яго—прарока багатага ўраджаю. Прагоніць вецер дождж—абмытая прагаліна-прасінь на момант выглядае з-за хмар, і адтуль, з сінеючай прагаліны — сонца жменямі сыпле на палі праменьні. А потым зноў дождж,— вялікі ды ласкавы, — барометр шчодрае восені. Зноў неба апранае рызманы жабрака, і бярозы шумяць глуха і прыдушана.

II

Шумяць бярозы, шумяць адкрасаваныя сады, і ў гэтым шуме чуецца дакор на дзень непагодлівы. А мо' зусім ніякага дакору ня маюць дрэвы, мо' яны шумяць вясёлыя бясклопатныя словы:

Як-жа ня шумець,
Як-жа ня гудзець,
Калі ў нашай хатачцы
Парадак ідзець...

Але-ж вясёласьці ў садоў ня можа быць. Загінула яна, весялосьць садоў, з дымам-пажарам паляцела ў шырокі прастор неба. Загінуў і парадак,— стаяць сады няпрыбранымі ды недагледжанымі,— вянуць бярозы, саромяцца свайго голага аблічча яблыні, хмура глядзяць на суседак ігрушы.

Ня можа быць бясклопатнасьці ў садоў, бо яны за адну сёлетнюю вясну бачылі восем пажараў. Ня толькі бачылі, але— і самі гарэлі,— каля кожнае хаты — сад і ў кожным садзе — палова апаленых дрэў.

І цяпер, праходзячы ўвечары па мястэчку, можна пачуць песьню дзяўчынкі:

Сама садзік я садзіла,
Сама палівала...

Другая, відаць падружка, шустра падхопіць, і тады галасы абедзьвюх дзяўчынак узьлятаюць высока-высока:

У маім садзіку-садочку
Доля расьцьвітала...

А потым сьпешна, скарагаворкай абрываюць словы:

Прайшоў бай —
Сэрца дай,—
Садзік мой спалілі...

Сядзяць дзяўчынкі на прызьбе, апяваюць сады; даўно сьцямнела, людзі спаць пакладіся,— летняя ночка караценька — золак схаваецца, золак зоймецца,— а ім не да сну: пагарэлі хаты, пуні, сяніцы... некуды дзецца дзяўчынкам. Суседзкія хаты, што ня зьнішчыла полымя, поўны-паўнюсенькі,— ні павярнуцца, ні прайсьці, ні прысесьці. Так і апяваюць сады-садочкі ды цёмную ночаньку,—толькі перад самай раніцай заснуць на часінку якую.

III

Вось яны, хаты, ранейшы прытулак дзяўчынак і іх бацькоў: разбураныя коміны, абгарэлыя шулы, гарбатыя сохі, крывулістыя, надломаныя ложкі... цэглы ды каменьне, попел ды галавешкі... аглабля абгарэлая...

Жудасны, дзікі малюнак... Тут полымя сьмерці прайшло навальніцай і булавою скасіла ўсё жывое. Вунь, тыя тры хлапцы, зусім ня людзі, а цені ад цароў прыроды, тагосьветныя здані нябожчыкаў. Яны ціха пераходзяць з пажарышча на пажарышча, ківаюць галовамі, махаюць рукамі, а часам у глыбокай задуме глядзяць на жабрацкую вопратку неба.

Сьцежкаю, рассоўваючы жыгучку-крапіву, я падыходжу да хлапцоў. Як яны не падобны да зданяў нябожчыкаў. Колькі ў іх сілы, энэргіі. Абветраныя, праставалосыя,— адзін у апорках на босую нагу, другі ў ботах, трэці ў лапцёх,— усе трое ў суровых нябеленых сарочках — з-пад расьцягнутых каўняроў відаць валасатыя пругкія грудзі,— як можна было параўнаць іх з ачахлымі ценямі? У вачох хлапцоў — ледзь прыкметнае водценьне сялянскае хітрасьці і адкрытая радасьць маладосьці: „Вось мы, як бачыш, па вугольлях ходзім, а ня сумуем"... Так, яны не падобны да пагарэльцаў, гэтыя праставалосыя, абветраныя хлапцы.

— Добры дзень, таварышы.

— Добрага здароўя.

Я запытаў у іх, як знайсьці праўленьне колгасу.

— Праўленьне,— тут адзін з хлапцоў падаўся да мяне,— сядзіць у папоўскім доме.

— Каб-жа яно там сядзела,—паправіў другі хлапец.

— Ну, калі не сядзіць, дык іхняя каморка зьмяшчаецца там.

— Каморка, а ў каморцы — стол, а на стале — кот мурлыча, зноў паправіў другі хлапец.

— Кот ня кот, а хто-небудзь пашле хлапчука на поле за Прыёмкам,—сказаў сваё слова і трэці, які да гэтага часу пaглядаў то на хлопцаў, то на мяне.



Бланско Агей—бацька расстралянага палякамі Андрэя Бланско, главара дукорскага партызанскага атраду.

Я падзякаваў хлопцам за даведкі і хацеў ужо накіравацца ў праўленьне, калі ў мяне нечакана запытаў адзін з іх, у вяснушках, з першым прокідам рыжых вусоў, крыху курносы і картавы.

— А скажэце, таварыш, па якой вы справе прыехалі да нас? Вы не са Сьмілавіч будзеце? Не аграном?

Калі я паведаміў аб мэце свайго прыезду, хлопцы абступілі мяне і, зьбіваючы адзін аднаго, пачалі расказваць „самае важнае" з жыцьця калгасу. Кожнаму хацелася выкласьці факты, як яблыкі на рынку — бяры, выбірай, ёсьць антонаўкі і беласалодкія...

— А за пажары, вось гэтыя,— іх было восем за адну вясну. Дзяржстрах выплаціў трыццаць чатыры тысячы.

— Грошы, як звон, горад можна пабудаваць.

— А на самай справе страты куды больш вялікія... Тысяч сто будзе.

— Куды там,— усё пагарэла... Усё дабро, нашчэнт.

— А ўсё Шпак Міхаська,— сволач, паганец пракляты...

— Шпак паліў, а Шпака навучылі Сыч з савою.

— А як-жа ты думаў? Шпакава галава, прабачай таварыш, што шапка мая, хоць і няма яе... Ды што гаварыць... тут атаман быў практыкаваны, мазгі ў яго не адсохлі,— ведаў, што рабіць...

Так, у атамана „мазгі не адсохлі", і помста яго была азіяцкай, помстай шакала з лісінай галавой. Але ўсё такі помста не зламала волі колгасьнікаў. Пасьля, у былой папоўскай хаце, у невялічкай каморцы — чатыры крокі ўдаўжыню, тры ўпоперак — старшыня колгасу, Прыёмка Андрэй, разказваў мне пра социялістычнае спаборніцтва ў час сяўбы, пра ўдарныя групы колгасьнікаў, пра жаданьне як мага хутчэй адбудавацца, загаіць раны ад дзікунскае помсты груганоў і сычоў.

Колгас малады, невялікі, разбураны пажарамі сёлетняй вясны. Колгас налічвае дзьвесьці чалавек, з якіх восемдзесят зьяўляюцца або старымі, або малымі. Зямлі маюць крыху менш за чатырыста гэктараў, з якіх пад ворывам знаходзіцца дзьвесьці трыццаць. Астатняя зямля — лог, балота, лясы, хмызьнякі. Рабочая і продукцыйная жывёла абагулена. Аплата працы падзелена на шэсьць катэгорый; першая катэгорыя за рабочы дзень атрымлівае 80 кап., шостая — 2 рублі. Да першай катэгорыі адносяцца старыя і дзеці; да апошняй — кваліфікаваныя працаўнікі колгасу — трактарыст, рахункавод, скарбнік. Толькі вось вучот працы ў колгасе мае саматужны характар, вучот недэталёвы, не заўсёды правільны і дакладны; часта на гэтай глебе здараюцца недарэчнасьці. Вось, напрыклад, у час маёй прысутнасьці малады рахункавод казаў, што ён памылкова запісаў атрыманы крэдыт на два рахункі. Гэта, на першы погляд дробязь, але з сумы дробязяй можа складзіцца непаразуменьне. Колгас — не паасобная гаспадарка, у якой можна пугаю па вадзе запісваць „дэбэт — крэдыт" і чапялою ў чалесьніку выводзіць „сальдо", „актыў", „пасыў"...

Тут, у колгасе мястэчка Дукора, трэба ўлічваць рух кожнае капейкі, кожнага ломанага гроша, каб можна было плянаваць, мець пэрспэктыву на заўтрашні дзень, і ня толькі на адзін дзень, але і на месяцы, на гады. Сесьці на прызьбе, на лавачцы, у цяньку неапаленых яблынь,— сесьці ды лічыць зоры на небе, углядацца ў Каіна-Авеля на маладзіку — тое-ж самае, што схіліць галаву перад „пасывам" і „крэдытам". І ў колгасе не сядзяць, як тыя сьцізорыкі, ня трацяць час на агляданьне пажарышчаў,— і малы і стары працуюць, аб'яднаныя адной агульнай мэтай, адным жаданьнем: выканаць і перавыканаць... па ўдарнаму, на паставе социялістычнага спаборніцтва... Ня дарма колгас называецца імем Шаснаццаці партызан. Бунтары беларускіх лясоў умеюць перамагаць на ўсіх франтох — і ваенным, і гаспадарчым...

Былі і ёсьць часовыя паражэньні, памылкі, недалікі, але ўрэшце такі партызаны перамаглі і перамагаюць. А колькі перамог у будучыні, у блізкіх днёх, якія вырашыць лёс дзьвюх антаганічных сіл?

## IV

Пра шаснаццаць дукорскіх партызан, герояў дваццатых год XX стагодзьдзя, закатаваных і расстрэляных белапалякамі, трэба расказаць падрабязна, і ня ў нарысе, ня ў беглых нататках падарожніка, — іхнія сынь, браты, сёстры, бацькі, суседзі, проста знаёмыя і незнаёмыя — колгасьнікі і неколгасьнікі — ч а к а ю ц ь жыватворчага помніку ШАСНАЦЦАЦІ, які абуджаў-бы ненавісьць да катаў і запальваў-бы сэрцы людзей на барацьбу з цывілізаванымі інквізітарамі, абнадзейваў-бы на немінучую перамогу равесьнікаў і патомкаў шаснаццаці. Такога помніку — шырокіх мастацкіх палотнаў героічнай барацьбы беларускіх партызан — покуль што няма, і пабудаваць яго ў недалёкім часе вельмі неабходна, тым больш, што пра слаўны дваццаты год, гул гармат, паўстаньні партызан, ласку панскую — бізун і штыкі — расказаць ёсьць шмат чаго...



Надворны выгляд агульнага памяшканьня пры сямігодцы.

... У канцы красавіка 1920 году польская армія ўвайшла ў мястэчка Дукору. Белапалякі саранчою апаланілі в у л і ц ы, скарпіёнамі ўпаўзьлі ў хаты. „Хто бальшавік? Хто бальшавік, мужыцкая морда? Усе бальшавікі... усе д'яблавы прыхільнікі"...

Бізун з булдавешкаю волава хадзіў па сьпінах непакорных, „бальшавіцкі дух" выганяў з маладых і старых, мужыцкі род далучаў да культурнай „белай косьці" — паноў Радзівілаў, паняй Залескіх, мадам Загжэўскіх... У імя ратунку Белай Русі ад Чырвонай Маскоўшчыны, у імя адмежаваньня беларускіх сялян ад катаў „Комінтэрну абшчыпаныя пеўні „Белага ожэлу" паласавалі на ласкуцьце цела Беларусі, чварталі на шмацьцё краіну Працы і Волі, абухамі білі ў пяткі сялян, у вастрогах трымалі лепшых сыноў вёскі, катавалі, зьдзекваліся, расстрэльвалі...



Рэўка Янка — адзін з шаснаццаці.

Блажку Андрэю, кіраўніку партызанскага атраду, рэзалі лыткі і раны пасыпалі сольлю; расказваюць, што ён маўчаў і ня выдаў ніводнага партызана. Калі ў лесе белапалякі выявілі Ўласэвіча і Маслыку, то яны парашылі не здавацца жывымі; Маслыка апошнюю куляю на сьмерць застрэліўся, Уласэвіч параніў сябе.

Ня ўсе былі рашучымі і загартаванымі,—знаходзіліся малаверы і трусы,—яны выдавалі таварышоў у кіпцюры драпежнікаў. Былі і шпіёны—Баравік і Навіцкі,—іхнія дэпэшы дапамаглі белапалякам пасадзіць не аднаго партызана ў скляпы польскага штабу. А трапіш у склеп—ня скора выйдзеш адтуль—там каты, набухлыя атавістычным жаданьнем помсты і крыві, будуць выпытваць патрэбныя словы шомпалам, прыкладам, іголкай, папяросай. Джэнтльмэны варшаўскіх салёнаў, прадстаўнікі вышынь шматвяковай культуры Эўропы, вартаўнікі гістарычнага рубікону паміж цывілізаванымі народамі Захаду і скіфскімі пляменьнямі дзікунскае Азіі будуць вышукваць новыя сродкі узьдзейнічаньня на абальшавічаных мужыкоў, новыя мэтоды выцісканьня патрэбных слоў з чалавечых ахвяр, будуць выдумляць новую тактыку ўціхамірваньня, прыгнечаньня, эксплёатацыі ўзбунтаванага мора людзей, учарайшых нявольнікаў і аўтоматаў.

Больш трох соцен сялян перабывала ў сьветлых пакоях пана Гаршэнкі. Пяць з іх загінулі ў цёмных скляпох панскага дому; семдзесят чатыры судзіў ваенна-палявы суд, чатырох выслалі з Дукоры, адзінаццаць накіравалі ў Менскі вастрог, а потым у Пазнань, у горад Грудзянец пад Гданскам, на катаржныя работы; адзінаццаць расстралялі за мястэчкам, у глухамані чорнае ночы (і поп дукорскае царквы даваў блаславеньне на расстрэл авечак паствы сваёй).

Пасьля акупацыі высланыя вярнуліся, катаржнікаў абмянялі, а шаснаццаць загінутых паўсталі перад вачыма людзей векапомным, у полымі народжаным, крывёю абмытым, уперад заклікаючым чырвоным штандарам.



**Тут прайшло полымя сьмерці...**

V

Мне расказваў пра гэта Янка Равэка, адзін з сасланых у горад Грудзянец пад Гданскам. Мы сядзелі ў каморцы праўленьня колгасу—чатыры крокі ўдаўжыню, тры ўпоперак,—і я ўважліва ўсхлухоўваўся ў словы Равэкі, спакойныя і ўпэўненыя,—яны толькі калі-ні-калі афарбоўваліся прыблізна ў такі колер: „Шкада, што Чырвоная армія была далёка... Тады-б было зусім іншае"... Выгляд меў ён ня зусім сялянскі, нешта ад гораду відаць было ў яго шэрых вачох, рысах твару, зморшчынах на ілбу і ў пабудове сказаў. Але ўсё такі набытае ад гораду не адразу кідалася ў вочы, і заўважыць яго можна было толькі пасьля пэўнага часу і абавязкова ў гутарцы з Равэкам.

— Вось і кажу я,—спрачаўся партызан з дэмобілізаваным чырвонаармейцам,—вось і кажу я, што бясплянавасьці тады ніякай ня было. Ня было таго, каб хто што захацеў, тое і рабіў. У нас у Козыраве штаб быў, і начальнікам штабу зьяўляўся Шаранговіч. У лютым месяцы ў нас у Міханавічах партызанскі зьезд быў. Там мы абралі свой рэволюцыйны трэбунал. А 24 красавіка зрабілі другі зьезд. На гэтым зьезьдзе абмеркавалі плян паўстаньня.

— Ну, канечна, ніякай плянавасьці ў вас ня было,—даводзіў дэмобілізаваны чырвонаармеец.—Хіба гэта плянавыя опэрацыі, калі ў адной воласьці паўстаюць, а ў другой па лясох хаваюцца. Трэ' было дакладна ўмовіцца аб часе выступленьня і разам дзейнічаць. Толькі такім чынам маглі вы пасьпяхова змагацца.



**Месца расстрэлу 11 партызан.**

— Ты ня ведаеш тагочасных абставін,—растлумачваў Равэка—а таму вось і так і гаворыш. Плянавасьць у нас была,—ну, як табе сказаць, агульная плянавасьць, — але вось баявой організаванасьці, дастатковага ўзброеньня, спрактыкаванасьці ня было.

— Якая тут спрактыкаванасьць трэба—усьміхаўся чырвонаармеец. Сеў за соснамі, падпільнаваў афіцэра, зьмерыў вачыма адлегласьць і—на мушку яго... Або падыйшоў да штабу, кінуў бомбу, а сам—драла...

— Добра табе жартаваць,—усьміхаўся таксама і Равэка,—ты ня нюхаў сапраўднага пораху. А каб ведаў усё, дык-бы зусім іншае казаў. Наша задача была—ня тэрорам займацца—нас прыдушылі-б як мух, адна шкода справе, больш нічога,—а дзейнічаць сумесна з Чырвонай арміяй. Ты ня думай, у нас сувязь добрая была, кіраўніцтва хапала. Вось, напрыклад, наступае Чырвоная армія. Яна адтуль, а мы адгэтуль... Палякам і некуды дзецца.. Мы былі супроць тэрору, мы—за масавыя выступленьні. Вось, братка, у чым справа.

Доўга яшчэ спрачаюцца Равэка і дэмобілізаваны чырвонаармеец. Іх спыняе рахункавод,—той самы, што памыліўся ў рахунках.

— Ну, што-ж,—гаворыць старшыня колгасу Прыёмка,—пачакаем з курсаў памочніка твайго, тады, напэўна, пойдзе лепш.

— Ну, вядома,—сьцьвярджае рахункавод,—тады пойдзе лепш.

VI

А дождж ня сьціхае. Неба ўсё яшчэ застаецца падрапаным нейчымі зласьлівымі кіпцюрамі. Калі-ні-калі пакажуцца прамені сонца. Ад праменяў блішчаць апаленыя галіны яблынь, ігруш бяроз. Жудасны малюнак—разбураныя коміны, печы, галавешкі на дворышчах, каткі без абодзьдзяў і абодзьдзі без каткоў.—Усё гэта трывожыць, чапляецца за ногі, ценямі ідзе ўсьлед.

У полымі нараджаліся новыя людзі і ў полымі нарадзіўся колгас.

Панскі дом славіўся п'янымі оргіямі вывіхнутых з жыцьця Гартэнкаў. Дом стаіць на касьцёх шаснаццаці. Таму ён і называецца цяпер сямігодкаю імя шаснаццаці партызан. Пяцьсот сялянскіх дзяцей навучаецца ў ім кіраваць жыцьцём. Вячэрні сялянскі рабфак рыхтуе дзесяткі загартаваных барацьбітоў на культурна-гаспадарчым фронце.

Папоўскі дом нічым ня славіўся,—калі ня лічыць хамельёнаўскага служэньня і госпаду Сінода маскоўскага і Езусу папы Рымскага,—таму і зьмясьціліся ў ім праўленьне колгасу і сельсавет. Абодвы яны—брат і сястра—актыўна працуюць над перабудовай старога Дукоры—галавешкі ды попел—у новую—самастойнасьць адзінак і ўключэньне асабістага ў грамадскае.

Царква—цытадэль глухамані і апухлай жуды сярэднявякоўя—памерла зімою,—такія ўжо звонкія марозы былі, і цяпер пазалочаны купал спавівае чырвоны сьцяг. У царкве мястэчковая моладзь наладжвае спэктаклі, і комсамольцы чытаюць даклады на тэму „тэорыя і практыка правага ўхілу".

Карчма—бясспрытульная бяздомніца бурлівага часу—пакорна сагнула некалі буйную галаву, і сьцежкі-дарожкі пазарасталі да яе. Недалёка ад царквы—ну, некалькі крокаў—б о й к а гандлюе „Цэнтрасьпірт", і чарга да жывіцельнага акенца вымяраецца некалькімі сажнямі.

VII

Вось і ўсё, што можна ўбачыць у Дукоры.

З мазаікі разнастайных драбніц выглядае твар нашых дзён.

Няпрыкметнае, на першы погляд ня маючае вялікай значнасьці, хавае ў сабе потэнцыяльную энэргію, нераспрацаваныя пласты золата. Бяжыць хлапчына па вуліцы,—кучаравыя валасы адкідвае назад і нешта мурлыкае сам сабе,—і вы думаеце, што ён спыніцца ў чарзе каля „Цэнтрасьпірту". А хлапчына гляне на чаргу, міргне дзеду Лявону,—„вадзіцу, дзядуля, купляеш", і пабяжыць далей сваёй дарогай. Зайдзеце ў сельсавет, у праўленьне колгасу і вы ўпэўніцеся, што хлапчына сьпяшаўся на сход ударнікаў колгасу. Пасядзеце хвіліну і вы ўбачыце, як ён будзе стукаць кулаком па стале, гаворачы аб падвышэньні продукцыйнасьці працы і наладжваньні культурнай работы. А пасьля сходу вы можаце ўбачыць хлапчыну на полі,—ён будзе кіраваць трактарам,—і межы-рубцы будуць ламацца, крышыцца, паміраць у апошняй агоніі.

# НА варце

**Нарыс АЛ. ІСБАХА**

**Пераклад з расійскае**



**Самай упартай часткай кулямёта быў замок**

Мы разьбіралі кулямёт Максіма ў памяшканьні кулямётнай роты. Максімы абкружалі нас з усіх бакоў. Хітравата пазірал на нас бліскучыя канцы руляў, якія высоўваліся з-пад кажухоў, як-бы нябачныя цікаўлівыя зьвяркі з норак.

Самай упартай і цяжкай часткай кулямёта быў замок. Я аніяк ня мог перамагчы яго, зрабіць яго паслухмяным у сваіх руках, як ін ыя часткі Максіма. Усё было добра пакуль справа не даходзіла да баявой спружыны. Тут я губляў уладу над замком, і вольная спружына, зласьліва гудзеўшы, вырывалася з маіх рук і ляцела ў непажаданы бок, трапляла ў твар каму з таварышоў і падводзіла мяне пад прызначэньне.

І вось гэтая падкалодная спружына і была крокам майго знаёмства з Янкам Сосаравым. Ён падышоў да мяне ў той момант, калі я зусім быў змучаны і ненавідзеў пракляты замок, з якім зусім згубіў надзею справіцца. Бачна, што ён даўно сачыў за мной. Дабрадушная ўсьмешка прасьвечвалася на яго шырокім твары з сківіцамі. Ён моўчкі ўзяў замок з маіх рук, шпарка і спрытна за некалькі сэкунд разабраў яго. Спружына пакорліва і пераможаная ляжала на яго шырокай далоні, паблісквоючы чарнаватымі зьвілінамі.

— Здорава ты,—праказаў я зьдзіўлены.

— Гэта што, гэта я магу Мне-б вось палітграмату,—праз смутак адказаў Сосараў.

Янка Сосараў—парабак з Яраслаўскай губэрні. Да часу адыходу ў армію некалькі год працаваў сьлесарам, умеў абыходзіцца з машынамі, а таму яму і быў паслушны кулямёт.

Мы пасябравалі з Янкам Сосаравым. Ён шмат расказваў мне аб сваім жыцьці, аб цяжкай патрэбе, якую яму давялося перажыць.

Ён быў малапісьменны, некалі яму было вучыцца грамаце ў цяжкія даармейскія гады свайго жыцьця. Тут у палку ён як губка ўбіраў у сябе веды. Ён прымаў актыўны ўдзел у гуртку для малапісьменных, ён прыходзіў на гурток і пакітайскаму пытаньню, дзе з вялікімі цяжкасьцямі пераварваў складаныя імёны кітайскіх генэралаў, ён быў абавязковым удзельнікам усіх пачынаньняў нашага ленкутка. І ўсюды—на занятках ва ўзводзе, на камсамольскіх, на занятках гурткоў Сосараў быў, уважлівы, каб даведацца, як мага больш, стараўся, каб два гады вайсковага жыцьця былі туга набіты ведамі, як ладункі кулямі ў вартавога ўзводу. Часамі веды заядалі. Атрымоўваўся такі перакос, як у старым Максіме. Але перакос выпраўляўся, затрымкі зьнішчаліся і далей спакойна і выразна працавала Сосараўская думка. Навука здавалася непераможна цяжкай, толькі спачатку, як у стары расхістаны кулямёт марудна ўдзявалася кулямётная істужка, так марудна ўдзявалася ў сьвядомасьць істужка вайсковай і палітычнай вучобы. Пасьля істужка ўдзявалася шпарчэй і вось ужо зусім лёгка і важна ўладае сьвядомасьць мудрэйшымі словамі навукі. Вечарамі або ўначы, калі я бываў чарговым, садзіўся за майго століка Сосараў, і калі ўся казарма апускалася ў цемень і толькі над столікам чарговага мігцела лямпачка—мы вялі з Сосаравым доўгія бясконцыя размовы аб жыцьці. Гэта было супроць ўставу. Сосараў павінен быў спаць. Я як чарговы ня меў права размаўляць з ім. Але-ж... я парушаў у гэтыя ночы параграфы ўставу ўнутраное службы. Я не раскайваюся ў гэтым, няхай даруюць мне гэтую віну былыя мае таварышы камандзіры.

* * *

Часта ў пакоі ячэйкі пасьля заняткаў мы разьбіралі лісты, атрыманыя чырвонаармейцамі з вёсак.

Шмат, вельмі шмат было напісана ў гэтых лістох. Праз скупыя заскарузлыя, прыходзіўшыя ў шэрых самаробных конвэртах, уставала перад намі вёска, з цяжкасьцямі, з надзвычайна вялікімі цяжкасьцямі, вёска, якая звальнялася ад пут старой закаранеласьці і цемры, вёска, якая з кожным днём рабілася новай. Пісалі ў полк, зьвяртаючыся за дапамогай, былыя нашы чырвонаармейцы. Траплялiся і яўна кулацкія лісты, і лісты панікёраў, якія, спалохаўшыся цяжкасьцяй, уцякалі ад іх.

У часе нашых гарачых спрэчак па поваду лістоў Сосараў звычайна сядзеў у баку. Ён быў беспартыйны і баяўся паказацца неразьвязным. Пасьля, ужо ўвечары, ён нечакана зьвярнуўся да мяне, як-бы дадумваючы думку, якая зарадзілася яшчэ удзень.

— А ўсё-ж сілы ў вёсцы больш становіцца. Вось мы прыедзем дапаможам...

Хутка ўцягнулі мы Сосарава ў комсамол, гэта яго прымусіла яшчэ сур'езьней аднесьціся да сябе, больш часу ўдзяліць палітвучобе, чытаньню газэт.

Некалькі разоў мы вызначалі Сосарава перадаць у партыю. Ён адмаўляўся, спасылаючыся на сваю малапісьменнасьць, малое знаёмства з палітычнымі пытаньнямі. Мы злаваліся на яго, пераконвалі. Але Сосараў адводзіў размову. На нашых сходах ён прысутнічаў рэгулярна, акуратней любога партыйца.

Наступілі перавыбары саветаў. Нашай школе далі адно месца ў раённы савет. Ухвалілі мы выставіць беспартыйнага або комсамольца. І тут трэба сказаць, узрадаваліся мы таму, што Сосараў у нас яшчэ ня сябра партыі.

Лепшага кандыдата мы-б не знайшлі.

Калі на сходзе ўсяго палка ў памяшканьні чырвонаармейскага клюбу сакратар ячэйкі ў ліку іншых кандыдатаў прачытаў: Сосараў Янка—комсамолец, селянін—шмат хто радасна ўсьміхнуўся ўспамінаючы дабрадушны сківісты твар і сталі шукаць па шэрагах і патрабаваць на сцэну. А Сосараў глядзеў у залю аднекуль з хораў, з-пад столі, і ўхмылкі сотні таварышоў адбіваліся на яго чырвоным і потным твары.

Новыя вялікія і важныя клопаты зьявіліся ў нашага дэпутата. Ён імкнуўся нічым не падкрэсьліваць свайго дэпутацкага званьня.

І хоць па правілу з прычыны вялікай дадатковай нагрузкі мог быць зволены ад часткі прызначэньняў—адмовіўся ад гэтага, каб не вызначыцца з усёй чырвонаармейскай масы. Па ранейшаму хадзіў Сосараў станавіцца на варту, па ранейшаму міласна даглядаў за сваім Максімам. Толькі часамі адсутнічаў Сосараў разам з другім нашым дэпутатам Цыганковым на вячэрняй праверцы, і аддзяльком дакладваў старшыні, што чырвонаармейцы Сосараў і Цыганкоў адсутнічаюць па прычыне ўрадавых спраў. І мы ведалі тады, што ў гэты вечар наш дэпутат выконвае лёс усяго Замаскварэчча.

Янка Сосараў стаў прымаць удзел у кіраўніцтве вялікім горадам, сталіцай старонкі Саветаў. К гэтаму таксама было вельмі цяжка прывучыцца. У савеце было шмат галін працы. Усе яны былі дапасованы адна да другой, як часткі кулямёта Максіма, але-ж каб зразумець іх і разабрацца ў іх складанасьці, патрэбна было вельмі многаму навучыцца, вельмі аб многім даведацца.

Аўторытэт Сосарава ў кулямётным узводзе рос. Часта ўвечары часе доўгіх размоў на ложках усе дзьве гадзіны ад праверкі да выключэньня сьвятла, калі разгаварвае ўся казарма, зьбіраліся хлопцы навокал ложку Сосарава, чыталі сялянскія лісты з Яраслаўскай, Уладзімерскай, Ніжагародзкай губэрняў і абгаварвалі важнае і складанае пытаньне, як дапамагчы сялянскай гаспадарцы.

---

Комунары з комуны „Першае Мая“ сустрэлі выведчыкаў ад маскоўскіх чырвонаармейцаў як лепшых таварышоў. У комуне „Першае Мая“ было дванаццаць чалавек.

Сярод іх былі і комуністыя і комсамольцы, быў скліканы сход комунараў, на якім выступаў Янка Сосараў і гаварыў аб задачах комуны і пастановах XV зьезду партыі I аб тым, што дванаццаць добра, а дваццаць дзевяць лепш. Зараз-жа пасьля сходу заносіць Янка Сосараў у свой дзеньнік: „Амаль усе выступалі ў спрэчках і задавалі нам пытаньні У выніку рашылі пытаньне паставіць на галасаваньне, рашылі аднагалосна прыняць хлопцаў з Чырвонай арміі—склад добры і падрыхтаваны да гэтае справы, як выказаўся сівы дзед і цётка Ягораўна“.

Так аб'ядналася комуна „Першае Мая“ з будучай комунай чырвонаармейцаў. І рашылі будучай аб'яднанай комуне даць імя Маскоўскай пролетарскай дывізіі.

Перасяленчая партыя забраніравала за комунай восем тысяч рублёў. Комунары рашылі зараз-жа пасьля дэмобілізацыі паехаць у комуну, і калі наладзяць справу, як патрэбна, перавезьці туды сваe сем'і з родных вёсак.

Янка Сосараў быў ня толькі на зямлі. Ён схадзіў ў Ачынскі акругком партыі і доўга там гутарыў аб будучай працы новых комунараў. Бо сярод семнаццi ёсьць шэсьць партыйцаў і сем комсамольцаў. Гэта ў злучэньні з партыйцамі і комсамольцамі дасьць моцнае праплАставаньне, партыйны асяродак будучай комуны.

Усе справы, даручаныя комунарамі, выконвалі два выведчыкі.

І вось зноў праз тысячы кілёмэтра імчыць іх вагон, і Янку Сосарава, дэпутата райсавету і правадыра комуны.

На дрыжачым вагонным століку дапісвае апошнія радкі свайго дзеньніку:

... „Семнаццаць комунараў, заслухаўшы даклад сваіх таварышоў“... Дакладваў Сосараў і аб зямлі, і аб комуне „Першае Мая“ і аб інвэнтары комуны, і аб саміх комунарах і аб бабцы Ягораўне, якая паіла гарбатай выведчыкаў.

У гэтую ноч доўга ня спалі ў шатры Янкі Сосарава. Сосараў гаварыў. Гаварыў ён і аб цяжкасьцях, якія стаяць, перад імі, і аб той вялікай і моцнай комуне, якую яны пабудуюць. Гаварыў ён і аб тым, што ў трох кілёмэтрах ад комуны знаходзіцца горад і што горад дапаможа, і комуну магчыма будзе электрыфікаваць.

Ярка гарэлі вочы будучых комунараў, а тыя, што сумняваліся, выкрэсьлілі сябе з сьпісу, паварочваліся да сьцяны і стараліся скарэй заснуць, каб заспакоіць завідлівыя думкі, якія бадзяліся па мазгу. Ліў моцны дождж. На пер ай лінейцы пад вялікім грыбам, шчыльна закутаўшыся ў шынэль, стаяў вартавы. Вартавы таксама думаў аб комуне. Вартавы быў адзін з семнаццi.

... Прабеглі два гады, прайшлі яшчэ дні. Вельмі мала дзён. Дзесятага кастрычніка быў урачысты вечар у палку. Грамчэй звычайнага граў оркестр, гаварыў старшыня Наркамзему, той самы інструктар, які некалькі месяцаў назад расказваў аб цяжкасьцях комуны, выступаў прадстаўнік Маскоўскага савету. Скупымі, але важкімі словамі адказваў ад імя комунараў старшыня часовага праўленьня комуны Янка Сосараў.

..Гэта быў апошні вечар семнаццаці комунараў у родным палку. На другі дзень семнаццаць комунараў ускінулі на плечы скрыначкі і разьвіталіся з родным палком, з роднымі таварышамі і з шырокага казармавага двара пайшлі на вокзал, каб адтуль паехаць у далёкую Сібір, на новыя землі, будаваць комуну пры дапамозе вед, якія набылі за два гады. У скрыначках у комунараў было шмат кніг, якія падарылі для бібліотэкі комуны. А Янка Сосараў трымаў скручаны чырвоны сьцяг, які атрымалі комунары ад сваe дывізіі, каб паставіць яго ў Ленінскім кутку комуны.

Я ўжо даўно ня бачыў Янку Сосарава. З лістоў я даведаўся, што яго комунары паслалі ў Краснаярск вучыцца на аграномічныя курсы...

У апошнім лісту, дасланым пасьля доўгага перапынку, ён даваў весткі аб тым, што скончыў курсы і, як заўсёды, скупа і сьцісла пісаў аб жыцьці комуны.

Па гэтаму лісту можна было даведацца аб вялікай і складанай барацьбе, якая адбывалася навокал комуны і ўнутры яе. І яшчэ ліст гаварыў і аб тым, што зараз нялёгка даецца Сосараву праца. І зараз, пэўна, часта з цяжкасьцямі працягваецца істужка жыцьця і атрымоўваецца часамі перакос і атрымоўваецца часамі затрымка. Шмат затрымак у старым Максіме, а ў жыцьцёвай барацьбе іх, пэўна, значна больш. І зараз Сосараў, які вырас і прайшоў вялікі шлях, пэўна яшчэ часам становіцца ў тупік і шукае правільнага шляху.

Але я ўпэўнены ў тым, што ён ня зыйдзе са свайго паста, што ён, завяяваўшы навуку, таксама зырка глядзіць уперад, як у армейскай варце.

І яшчэ я ўспомніў сваё першае спатканьне з Сосаравым, яго моцную, мускулістую руку і смуглую, вузлаватую далонь, на якой ляжала баявая спружына старога Максіма.



Каля палаткі ў часе адпачынку

На заводзе „ЭНЭРГІЯ“ (Менск)

Фото Н. Фрыдмана



Ударнік ля варштату







# Сонца дзецям

У былым панскім маётку ў Дукорах зараз выхоўваюцца дзеці працоўных сялян. Там, дзе балявалі паны, там. дзе ня мела права ступіць нага селяніна, зараз набіраюць здароўя дзеці працоўных

Дукорскія партызаны не дарма пакладалі свае галовы за вольную Савецкую Беларусь. Дзеці загінуўшых партызан, разам з дзяцьмі ўсіх працоўных Беларусі, ужо ня чуюць больш сьвісту панскага бізуна, бо няма ўжо і самога пана.

Мы гадуем здаровых, фізычна-разьвітых дзяцей. Будаўнікамі новага сацыялістычнага жыцьця будуць здаровыя людзі, а гэткімі будуць нашы дзеці, якія выхоўваюцца пад сьцягам сонца-ўсходу, пад сьцягам камуны.



Малюнкі
Г. КІПНІСА

Апавяданьне
БРОЙДО.



# У стралкоўскім лягеры

**А**ЛЕ калі-б гэтым абмежаваліся нашы пакуты.

Некалькі дзесяткаў дарослых людзей—у некаторай сваёй частцы, зазнаўшыя гора, бывалыя, сьмелыя людзі—прызначаны былі да неазначальнай працягласьці існаваньня, асноўным зьместам якога было пакутваньне.

У нашым лягерным жыцьці ўзьнікалі часам арыгінальныя спэктаклі.

Яны стыхійна ўрываліся ў наш дзень, значна ўзмацняючы нэрвовую напружанасьць. Справа ў тым, что палонныя ў выніку катажнага рэжыму, які быў устаноўлены ў бараках, штодзенна зварачаліся да самых шалёных, рызыкоўных спробаў уцячы.

Мы ўвайшлі ў пэрыод, калі слабыя духам пусьціліся „ўва ўсе цяжкія".

Псыхолёгічнае тлумачэньне для сьмелых авантур — уцякаваньняў, ня было цяжка. Новаму чалавеку дастаткова было пражыць дзень у лягерных абставінах, каб ім моцна заўладала адна думка, адна ідэя—уцячы, толькі адна яна і падтрымоўвала.

Ня дзіва, што кожны дзень мы даведваліся аб спробах бегчы з боку палонных, пры чым гэтыя спробы скрозь і побач зрываліся з-за свае кустарнасьці. Начальнік лягеру капітан Вагнер і яго бліжэйшы памоцнік паручык Маліноўскі рашылі раз назаўсёды палажыць гэтаму канец (гэта ім перашкаджала), устанавіўшы за пабег для палонных як кару, расстрэл.

Капітан Вагнер ганарыўся сваёй пэрсонай. Розавы, з ледзь парадзеўшымі гладка прычасанымі валасамі, ад чаго твар напамінаў хутчэй жанчыну, чымся слаўнага ваяку, якім стараўся выглядаць капітан Вагнер.

Тоўсты зад, туга абцягнуты рэйтузамі, надаваў яму яшчэ больш жаночы выгляд. Ён хварсіў—у жоўтых крагах, заўсёды старана начышчаных.

У часе вайны сярод царскіх штабных пісароў мы шмат бачылі такіх „распрыгожых".

Капітан у лягеры адчуваў сябе, як насьледны ўладарны прынц і заўсёды выступаў у сapраваджэньні пышнай сьвіты. Калі ўваходзіў у барак, ён мэлянхолічным міганьнем падзываў да сябе унтэра і браў з яго рук гарапнік.

Барак сьціхаў... Прынц заспакоеным узглядам ахапляў усю глыбіню барака і шукаў ахвяры. Потым спакойна зьбіваў яе.

Кожнае наведваньне бараку заўсёды праходзіла такім чынам.

Канвойныя баяліся яго як агня. Ён устанавіў сыстэму, каб усе пагалоўна сачылі сярод ахраны і ведалі самыя малыя парушэньні правоў з боку канвойных.

Гэтым тлумачылася тое, што ўсе нашы спробы загутарыць з канвойнымі канчаліся бяз вынікаў, а часам і штуршком прыкладам

Бліжэйшым нашым начальнікам быў паручнік Маліноўскі.

Палонныя гаварылі пра яго, што раней ён быў аб'езчыкам у маёнтку якога-та польскага пана.

Твар у яго быў увесь скапаны воспай. Цынава-цьмяныя вочы. Доўгія вусы і доўгія нязграбныя рукі. Ад яго заўсёды дрэнна пахла і яго блізкасьць выклікала фізычную агіднасьць. Салдаты імкнуліся пры ім трымацца ў баку, ён гэта заўважаў і абыходзіўся з імі амаль таксама, як з намі.

За Галічонамі, на палку ляжаў хворы, які блізка што ня мог уставаць. Ён быў у апошняй ступені тубэркулёзу і палонныя стараліся дапамагчы яму наколькі гэта было магчыма.

Раней ён быў настаўнікам у якім-та павятовым гарадку. Калі апошні быў заняты палякамі, на настаўніка данесьлі, што ён путаўся з немцамі. Да рэчы, і прозьвішча яго было схожа з нямецкім ні то Фіхцер, ні то Рыхцер.

Яго арыштавалі, некалькі месяцаў трымалі ў бараку ў стане блізкім да сьмерці.

Вось да гэтага хворага ўнадзіўся хадзіць Маліноўскі. Прыдзе, загадае падаць сабе табурэт, сядзе і пачынае весьці гутарку.

Хворы стаіць перад ім, а Маліноўскі дапытвае:

— Ці добра было з немцамі, дык як немцы плацілі за прадажу інтарэсаў Польшчы, ды куды ён грошы схаваў.

Хворы дрыжыць і падае з ног. Маліноўскі загадае абліць яго вадой. Вада ўжо не дапамагае—хворы доўга ляжыць бяз памяці, пасьля гэтага Маліноўскі выходзіць.

У бараку цішыня. Хіба часам забоям хто-небудзь ня стрымае нэрваў—яму зараз-жа зачыняюць рот таварышы.

Калі павялічыліся гэтыя кустарныя спробы ўцякаць, высокае начальства—капітан і паручнік, узмацнілі свае назіраньне за імі.

Яны дадумаліся да наступнага.

За ўцёк аднаго з палонных з якога-небудзь барака, адказваюць усе, хто застаўся ў бараку. У гэтым выпадку будуць адбірацца два чалавекі для расстрэлу з бараку і яшчэ трэці дзяжурны па бараку, на абавязку якога ляжала сачыць за палоннымі, утрымоўваючы іх ад уцёку.

Гэта рашучая пагроза кругавой парукі, падмацаваная ўдарамі гарапніка, зрабілі адпаведнае ўражаньне.

Уцёкі на некалькі дзён спыніліся. Ні ў кога з палонных ня ўзьнікала сумненьне ў тым, што паны Маліноўскі і Вагнер сваю пагрозу не задумаюцца прывесьці да выкананьня.

У адзін з вечароў па скканчэньню працы па чыстцы ўбіральняў я вярнуўся ў барак. Да мяне падышоў усхваляваны Сарокін і сказаў:

— Сёньня ўцякло два чалавекі. Аднаго з іх злавілі, другому давялося ўцячы, ці надоўга ўцалеў ён ня ведаю. Пастарунак пашоў на даклад да паручніка.

Я зразумеў прычыну распачлівага замяшаньня Сарокіна. Да рэчы, за ўцёк адказвалі ўсе. Трэба мысьліць, што ў Вагнера і Маліноўскага хопіць сумленьня зьдзейсьніць экзэкуцыю, як ён абяцаў.



**Масквічом і ленінградцам дадатковая порцыя ўдараў лічылася абавязковай.**

Самым хмурым нашым здагадкам суджана было поўнасьцю апраўдацца.

Не прайшло некалькі хвілін, як некалькі салдат загналі ў сярэдзіну палонных, якія былі ў той дзень на ўроку; увайшоўшы ў барак, прапанавалі усім распрануць нагавіцы і легчы на лаўку; шэсьць чалавек узброеныя драцянымі гарапнікамі, не марудзячы, пачалі чарговае зьбіваньне. На гэты раз палякі былі наймаверна зьдзіўлены шалёным дзёрзкім замерам уцёкшых, якія рызыкнулі зьдзейсьніць свой плян, літаральна, сярод белага дню.

Начальнікі нашы далі волю ярасьці, якая нагрмадзілася і расьпіразалася ўва ўсіх 50 палонных, якія зьмяшчаліся ў 37 бараку; атрымалі па 30 гарапнікаў кожны. Колькасьць гарапнікаў выпадала на лёс кожнага з палонных па прызначэньню Маліноўскага, які выходзіў з наступнага арытмэтычнага мэтоду. (Да рэчы, кат гэты мэлянхолічны, але па зьвярынаму жорсткі, быў заўсёды з пачатку экзэкуцый вытрымана „далікатны“ з палоннымі).

— Колькі ўва ўсім бараку чалавек? — ласкава даведваўся Маліноўскі ў унтэр-афіцэра.

— 50—чуўся адказ.

— Дайце кожнаму з траціны, што абазначала колькасьць, якая раўнялася трэцяй колькасьці жыхароў бараку.

Мы ведаем, што зараз-жа за гэтым звычайна ідзе дадатковая порцыя гарапніка для палонных па „нацыянальным адзнакам“.

Маліноўскі дадаваў яўрэям пяцёрку або дзесятак удараў. Колькасьць дадатковых знаходзілася яшчэ ў сувязі з яго настроем.

Далей „па прэміі“ ўдары дадаваліся па тэрытарыяльным адзнакам.

Мне—алонецкаму селяніну — усыпалася „нармавая“ порцыя ўдараў пры хлястаньні, таму, што Алонецкая губэрнія была распаложана далёка ад цэнтраў чырвонае небясьпекі — Ленінграда і Масквы.

За тое для палонных, якія лічыліся па пытальным лісткам масквічамі і ленінградцамі, дадатковая порцыя ўдараў пры хлястаньні лічылася абавязковай.

Як на зло, Маліноўскі ўладаў добрай памяцьцю, занадта хутка стаў нас усіх пазнаваць у твар і добра ведаў, хто з якіх краёў адправіўся на фронт, каб ваяваць з палякамі.

Па гэтаму ён быў дасканалым і рэдка памыляўся.

Кожны з палонных чэсна атрымоўваў пакладзенае „па закону“ Маліноўскага.

Усё ішло як патрэбна—раптам адзін з выхлястаных, казак, даведзены, бачна, да надзвычайнай ступені безнадзейнасьці, намысьліў апэляваць да гуманнасьці польскага афіцэра.

Зьвярнуўшыся да паручніка Маліноўскага, плачучы сказаў.

— Ваша благародзьдзе, завошта мяне б'юць? Сапраўды я стары нямецкі палонны. Служыў у царскай арміі. Папаў у палон да немцаў, дзе правёў больш, чым чатыры гады. Вяртаючыся дахаты быў затрыманы ў Вільні і зноў дасланы сюды. Бальшавіком я ня быў, я ня бачыў іх у вочы. Чаго вы ад мяне хочаце? Даруйце, адпусьцеце дахаты...

Прамова яго перарвалася, голас зрываўся, сьлёзы цяклі з вачэй.

— Кламіш (брэшаш)—загарланіў Маліноўскі—выхопліваючы з кабуры рэвальвэр. Загрымеў стрэл і казак, забіты куляй, як сноп, упаў на зямлю.

Маліноўскі азьвярэў — маленьні казака яшчэ больш распалілі яго гнеў.

Але гэтаму ня быў яшчэ канец. Усьлед за гэтым рушыў другі выпадак гэткага парадку. А пасьля таго, як Маліноўскі расстраляў на вачох ува ўсіх палонных казака, да яго падышоў унтэр-афіцэр Бродзкі, старшы нашага блёку (10 баракаў) і даклаў, што маецца яшчэ адзін палонны, які настойліва даводзіць, што ён не бальшавік.

Палякі застанавілі ў лягеры арыгінальны рэглямант, па якому рашуча ўсе палонныя, якія знаходзіліся ў бараках, лічыліся бальшавікамі, прычым да катэгорый бальшавікоў палякі адносілі нават дзяцей.

— Дзе гэты „не бальшавік“, — закрычаў Маліноўскі.

— Марыш, гандляр — працягваў даводзіць яму Бродзкі—кажа, што быў затрыман нашымі ў Вільні выпадкова. Клянецца, што ня любіць бальшавікоў, спасылаецца на сьведак.

— Выпадкова,—перабіў яго Маліноўскі. Ведаем мы гэтыя выпадковасьці. Нут-ка давай яго сюды.

Бродзкі паказаў Маліноўскаму на тоўстага з акрываўленым тварам латыша, які ляжаў на зямлі і голасна стагнаў ад болю.

Раны на целе, якія атрымаліся ў выніку хлястаньня тэлеграфным дротам, таксама, багата цяклі крывёю.

Трэба мысьліць, што латыш ня бачыў расправы Маліноўскага з казаком, а таму ён наўрад ці рызыкнуў-бы спасылацца на сваю нянавісьць да бальшавікоў, прасіць аб міласэрдзі.

— Так ты не бальшавік?

Запытаў ласкава яго Маліноўскі.

— Не, я не бальшавік—моцна плачучы, адказаў латыш.—Пашкадуйце, у мяне жонка, дзеці. Дайце мне магчымасьць вярнуцца да іх. За вошта вы нада мной зьдзекаецеся? Дадому, дадому адпусьціце, да дзяцей.



**Штодзенна рабілі самыя шалёныя рызыкоўныя спробы ўцячы.**

Зноўку моцны выкрык „кламіш“ і куля з рэвольвэра Маліноўскага прастраліла галаву латышу, забіўшы на месцы.

Калі экзэкуцыя над палоннымі скончылася, Маліноўскі выразна загадаў начальніку блёку (10 баракаў) выгнаць на вуліцу ўсіх палонных з астатніх 9 баракаў.

Бродзкі без нарацаньня выканаў гэты загад.

Канваіры пабеглі ў баракі і зьбівая на хаду гарапнікам палонных, загадалі ўсім выйсьці на панадворак і выстраіцца ва фронт.

Да мяне падышоў незнаёмы унтэр-афіцэр.

— Ходзь за мной— загадаў ён. Я пакорна пашоў за ім. Уласна кажучы, не разумеючы навошта ён мяне кліча. Але, калі-б не паслухаў, мяне сталі-б зноўку біць.



...даведзены да надзвычайнай ступені безнадзейнасьці намысьліў апэляваць да гуманнасьці польскага афіцэра.

Мяне агарнула якая-та абыякавасьць. Прыгаварыў сябе к горшаму—спакойна прыняў-бы гэткую-ж недарэчную сьмерць, якой загінулі казак і латыш.

Што значыла маё жыцьцё ці сьмерць у вялікім сыходжаньні сьвету новага і сьвету старага. Я не палохаўся сьмерці, я мкнуўся перамагчы ў сабе жах перад яе прыходам.

Унтэр паклікаў яшчэ аднаго з палонных і мы абодва падыйшлі да кучы насілак, якія не далёка ляжалі.

Мы ўзялі насілкі і пайшлі за унтэрам. Падыйшлі да барака, палажылі на насілкі цела забітага Маліноўскім казака і панясьлі ў пакой нябожчыкаў. Потым зноўку вярнуліся да барака. Такім чынам занесьлі цела забітага латыша, які знайшоў сьмерць у момант, калі шукаў міласэрдзя ў паручніка Маліноўскага. Абодвы трупы палажылі ў пакоі нябожчыкаў.

— Можаце заставацца ў пакоі нябожчыкаў—ласкава сказаў нам унтэр.

Пазьней я даведаўся, што ён выконваў абавязкі фэльчара, запамятаў яго прозьвішча—Войдыла. У істотнасьці гэта быў адзін з нямногіх, хто за час палону паказаў у адносінах да нас намёк на гуманнасьць.

Мы засталіся ў пакоі нябожчыкаў у суседзтве з трупамі.

„А да рэчы гэта былі зусім нядаўна, жывыя людзі“,—падумаў я. К чорту сантымэнтальнасьць, крэпка сьціснуць зубы.. Чакаў пакуль скончыцца расправа.

Некалькі гадзін прайшло яшчэ пакуль ня ўлёгся, побач з баракам, шум. Мо', бачна, экзэкуцыя скончылася.

— Хадзем,—сказаў таварыш з 13 барака, а то яшчэ сюды прыйдзе.

Мы ўзялі насілкі й не марудзячы пайшлі да свайго блёку.

Там я ўбачыў страшны малюнак. Таварышы ляжалі й стагналі. Уся іхняя вопратка й без таго жабрацкая, вісела на іх клоччамі. Скрозь дзіркі бачны былі на целе крывавыя чырвоныя рубцы і парваныя раны.

— Пятрусь, гэта ты? Узрадаваўся Пятроўскі—а мы думалі што калі цябе павялі, то павялі на расстрэл.

Падсеў да яго, падзяліўся з таварышом сваімі паведамленьнямі, думкамі ў пакоі нябожчыкаў. Сталі шалёна лаяцца: гнеў ярасьць супроць праклятых катаў, душылі нас з такой сілай што ў Сарокіна, які кідаўся ад сьцяны на нарах у бясьсільным адчаяньні, пена выступіла на губох.

Зноўку крыкі і стогны. Яны даносіліся з жаночага бараку, дзе, між іншым, зьмяшчаліся дзеці. Нам захацелася чаго-б гэта ні каштавала высьветліць, што там робіцца. Адзін з таварышоў папрасіў конваіра праводзіць яго ў убіральню. Ён хутка зьвярнуўся, трасучыся, як ад трасцы, паведаміў:

— Таварышы, там жанчын разьдзяваюць да гала і б'юць гарапнікам!

У стралкоўскім лягеры знаходзіліся захопленыя ў савецкім шпіталях сёстры міласэрдыя. Палякі асабліва ня любілі іх.

Маліноўскі як-та публічна, злосна лаячыся, адчытаў сястру, зусім ня лічачыся з ёй, што перад ім стаялі перапалоханыя жанчыны. Па яго думках, рускія жанчыны павінны былі забіваць сваіх мужоў і сыноў у тым выпадку, калі высьвятлялася, што яны бальшавікі. А раз яны гэтага не рабілі, то з жанчынамі, у даным выпадку сёстрамі міласэрднымі патрэбна было абыходзіцца, як з бальшавікамі.

Так навучаў Маліноўскі, уладар стралкоўскага лягеру, якому мы, некалькі сот палонных—былі адданы на „парок і рабаваньне“.

Лямманты ўсё ўзмацняюцца. Сарокін, нечакана для ўсіх нас, рынуўся да дзьвярэй. Ён махае кулакамі і нешта незразумелае бармоча. Мы чуць яго заспакоілі.

— Заб'ю, не хачу жыць, не пацярплю, калі расстраляюць. Не дазволю. Не магу. Трусы вы жалкія, прыхвосты, як можна столькі цярпець, як зямля вас носіць пасьля гэтага. Сабакі, псы.

Мы перапалохаліся. Ня было ніякага сумненьня ў тым, што Сарокін, калі-б мы яго не адпіхнулі ад дзьвярэй, кінуўся-б на конваіра.

Па абодвым бакам Сарокіна ўселіся Пятроўскі і Шанімаў, гатовыя пры першым яго руху, накінуцца на яго і трымаць да таго часу, пакуль не заціхне. Мы спрабавалі загаварыць з ім ласкава, але Сарокін ня слухаў нас, а працягваў рвацца да выхадных дзьвярэй.

А пасьля гэтага памятнае расправы лягер перавярнуўся ў пекла.

Вагнер і Маліноўскі азьвярэлі. Напады на баракі сталі сталымі зьявішчамі. Зьбіцьцё рабілася раніцой, увечары, удзень і ўзьнікала па ўсякай недарэчнасьці.

У распараджэньні Вагнера і Маліноўскага мелася ў дастатковай колькасьці прычын да таго, каб у любы момант прыдрацца і пачаць зьдзекі; а ўжо калі экзэкуцыя пачыналася, каты даходзілі да шаленства і зьдзекваліся з агіднай жорсткасьцю, перарабляючы хлястаньне ў суцэльнае і маруднае тыранства.



Казак, забіты куляй, як сноп, упаў на зямлю.

# СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

**На малюнках:**

Унізе зьлева: завод „Энэргія“ ў Менску, які яшчэ зусім нядаўна быў невялічкай рамонтнай майстэрняй, перабудаваны ў вялікі машынабудаўнічы завод.

Справа: 1) Новая гарбарня ў Гомелі. 2) Будаўніцтва на Асінстане. 3) Катлы Асінаўскай электрастанцыі.

# ПАД РУДАБЕЛКАЮ

**З успамінаў былога партызана т. ЛЯЎКОВА**

„РУДАБЕЛЬСКАЯ ФЭДЭРАЦЫЙНАЯ РЭСПУБЛІКА".

— Вы ня чулі аб такой рэспубліцы? У Бабруйскай акрузе аб ёй усе ведаюць. Між тым Рудабельская фэдэрацыйная рэспубліка заслугоўвае, каб аб ёй ведалі ня толькі ў Бабруйскай акрузе, але ва ўсёй Беларусі, бо празвалі яе Рудабельскай фэдэрацыйнай рэспублікай таму, што яна першая ў Беларусі у часы нямецкай окупацыі з'арганізавала ўладу саветаў, калі немцы яшчэ былі каля Воршы.

Рудабельскі падраённы камітэт партыі распачаў дасылаць праз сялян і нямецкіх салдат ультыматум нямецкаму камандаваньню.

— Выбірайцеся чым хутчэй з нашай тэрыторыі, у праціўным выпадку мы выступім супроць вас з узброенай сілай.

У першыя часы нямецкае камандаваньне пасьмейвалася:

— Гусей палохаюць.

Але калі да іх дайшлі чуткі, што сяляне рыхтуюцца не на жарты паўстаць супроць нямецкіх окупантаў, што салдаты сталі так безнадзейны, што яны сялян усьміраць ня будуць, то нямецкае камандаваньне вырашыла выбрацца цэлымі і сухімі 25-га лістапада 1918 г.

Падраённы камітэт партыі ў апошні тыдзень перад адыходам немцаў разьвіў актыўнейшую дзейнасьць. Таварышы Салавей, Ляўкоў, Драпеза, Званковіч, Кавалевіч Сьцяпан і іншыя былі накіраваны на вучасткі для агітацыі і згуртаваньня вайсковых атрадаў.

Прыдзе бывала хто небудзь з іх на вёску, зойдзе да войта (старасты) і скажа:

— Да гэтага часу вы слухалі немцаў, зараз слухайцеся нас.

Войт крыва паглядзіць, падумае, але ўпэўніўшыся, што з ім не жартуюць, што справа стаіць досыць сур'ёзна, ахвотна згаджаецца.

— Што-ж, бальшавікоў, дык бальшавікоў. Лепш была-б улада савецкая, чым окупацыя нямецкая.

І пачалі выконваць загады бальшавікоў.

Па ўсіх вёсках распачалі склікаць сходы сялян.

— Даволі цярпець прыгнечаньне нямецкіх окупантаў,— заяўлялі на гэтых сходах.

Нямецкая окупацыя даволі прыелася сялянам. „Культурным націскам" нямецкі імпэрыялізм душыў беларускіх сялян ня горш белапалякаў.

Сяляне ахвотна згаджаліся. І на гэтых сходах сталі зьбіраць зброю.

— Хведар, здаецца, у цябе недзе схавана стрэльба. Даволі ёй у зямлі ржавець! Перадамо бальшавіком.

— А ў цябе, здаецца, недзе абрэз ад стрэльбы ў гумне захаваны.

І сяляне распачалі адзін другога падштурхваць, што ўся захаваная зброя, патроны, бомбы і г. д. зараз-жа перадаваліся бальшавіцкім атрадам.

Сабралі досыць вялікую колькасьць зброі.

Выступленьне была прызначана на 24-е лістапада ўвечары. Баяліся, як-бы ў момант адыходу немцаў контр-рэволюцыйныя кулацка-шляхецкія элемэнты не захапілі ўлады.

Політычны гарызонт Рудабелкі стаў праясьняцца. Данясеньні былі самыя заспакойваючыя. Немцы, даведаўшыся, што рыхтуюцца атрады бальшавікоў да выступленьня, парашылі пакінуць Рудабельскі раён на дзень раней. І 24-га лістапада ўвечары яны пачалі пакідаць позыцыі. На заклік Рудабельскага падраённага камітэту партыі на хутар Базыля Шэйка, недалёка ад вёскі Лясок, сабралася чалавек 400 сялян. Кожны атрад сялян, які прыбываў зноў, сустракалі моцнымі выгукамі „ура", гушкалі старэйшых і заслужаных таварышоў, сьпявалі песьні і г. д. Адным словам, настрой быў самы захапляючы, баявы і сьвяточны. На хутары, зразумела, усе зьмясьціцца не маглі і прыйшоўшыя разьмеркавалі ся ва двары, чакаючы, дзьвёх гадзін ночы, калі было вырашана ісьці для захопу ўлады.

На хутары мелі нараду кіраўнікі. Насьпех быў напісаны загад № 1, якім абвяшчалася: „безадкладна ў дзьве гадзіны ночы выступіць для захопу Рудабельскай земскай управы, разагнаць засеўшых там эс-эраўскіх прыхвасьняў капіталістых і паставіць савецкую ўладу, г. зн. арганізаваць рэволюцыйны камітэт".

...„Безадкладна-ж па ўсіх вёсках організаваць камітэты беднаты. Старшынёю рэволюцыйнага камітэту назначаецца т. Салавей. Сакратаром—Ляўкоў. Загадчыкам харчовае справы—Лявон Адзінцоў. Забясьпечаньнем атрада—Ус Максім. Загадчыкам зямельнага аддзелу—Званковіч Нічыпар.

Калі прачыталі загад, а чыталі яго некалькі разоў, то ўсіх прызначаных у рэволюцыйны камітет пачалі гушкаць—радасьці ня было канца. Роўна ў дзьве гадзіны ночы сяляне, якія сабраліся, пастроіліся ў рады і пайшлі на Рудабелку. Па дарозе сустрэлі абоз уцякаўшага з-пад Глуску пана.

— Раздаць беднаце,—крыкнулі ўсе ў адзін голас. І першыя трофеі бальшавіцкага выступленьня былі разданы беднаце.

Атрад падышоў да Рудабельскай земскай управы. Каля дзьвярэй і вакон былі пастаўлены вартавыя. Кіраўнікі паўстаньня падышлі да дзьвярэй і пастукалі.

— Хто там? — зашапялявіў нехта з сярэдзіны.

— Адчынеце!—запатрабавалі бальшавікі.

У сярэдзіне памяшканьня забегалі людзі. Запалі агні. І з сярэдзіны нехта пазваніў ключамі. Адсунулася засаўка, стукнуў замок і дзьверы адчыніліся. Гуртам увайшлі ў сярэдзіну памяшканьня.

Імем Беларускай савецкай рэспублікі земская ўправа лічыцца распушчанай. З гэтага моманту ўлада перадаецца рэволюцыйнаму камітэту.

— Што-ж я павінен рабіць? —пужліва зашаптаў старшыня земскае ўправы.

— Перадайце нам ключы, адчынеце шафы і можаце выбірацца.

Рэўком пачаў дзейнічаць.



Партызан Алесь Салавей, расстрэляны белапалякамі.

У момант былі пасланы атрады для захвату маёнткаў Урангеля і Беразоўскага. Трэці атрад быў пасланы для захвату чыгуначнай галіны на станцыю Ротмiравічы. Шмат таварышоў было разаслана па ўсіх вёсках для організацыі камітэтаў беднаты.

Былі мобілізаваны 5 машынак. Ключ ад канцылярскай шафы старым старшынёю быў ці згублен, ці захован. Ламаць шафы не хацелася. З гэтае прычыны палічылі ўжыць іншы, больш верны спосаб. Некалькі паўстанцаў былі пасланы да крамніка, які жыў недалёка. Паднялі яго з ложка. Прымусілі адчыніць краму, і ад імя рэволюцыйнага камітэту для дабрабыту савец-

кай улады конфіскавалі пару стоп паперы, копіравальную паперу, асадак, атраманту, пёраў і іншых канцылярскіх прыладаў. Усю ноч машынкі памнажалі загад рэволюцыйнага камітэту аб стварэньні саветаў і адозву аб перавароце, які адбыўся.

Праз некалькі гадзін, калі першая суматоха захвату ўлады прыціхла, калі ўсе зноў назначаныя супрацоўнікі расьселіся па сваіх месцах, калі па ўсіх дарогах з Рудабелкі ехалі верхавыя ў вёскі з адозвамі і загадамі аб організацыі на месцах камітэтаў беднаты, у пакой увайшоў стары старшыня і сакратар земскае ўправы.

— Што-ж мы будзем рабіць?

Сакратар рэволюцыйнага камітэту падаў паперку і адказаў:

— Прачытайце, падпішэцеся і падпарадкуйцеся.

Дрыжачымі рукамі абодва прадстаўнікі буржуазнага панаваньня ўзялі загад, прачыталі і расьпісаліся.

— А далей што?

— Вы, старшыня, ідзеце спаць. А вы, сакратар, да поўнае організацыі ў нас справы — вазьмеце паперу і садзецеся працаваць.

Стары выйшаў, а сакратар нехаця пайшоў у куточак, сеў за стол і стаў разьбірацца ў цэлай кучы накіданых і раскіданых папер.

К раніцы ў вярстох 40—50 кругом ад Рудабелкі была організавана ўлада саветаў. Маёнтак Урангеля, дзе быў бровар, ахоўваўся рэволюцыйным атрадам.

Раніцою з цэлага шэрагу вёсак прыяжджалі сяляне ў Рудабелку паглядзець, што гэта за новая ўлада, якая на працягу аднэй ночы пашырылася на такі вялікі раён.

І калі яны вайшоўшы ў рэволюцыйны камітэт убачылі прадстаўнікоў улады саветаў, то, выходзячы адтуль, сьмяяліся:

— Ды гэта-ж Яхімаў сын, а другі— Якубаў.

— Хлопцы гэтыя добрыя. Трэба іх слухаць.

т. Ляўкоў—былы кіраўнік рудабельскіх партызан.

Некалькі дзён Рудабельская савецкая рэспубліка была адзінай на Беларусі, над якой разьвіваўся чырвоны сьцяг з сярпом і молатам. Рудабельскі рэволюцыйны камітэт ня спыніўся на тым, што сам захапіў уладу, але кінуў заклік:

— Адважныя, моцныя і рашучыя—у атрады выгнаньня немцаў з сваe Беларусі!

Сялянская моладзь адклікнулася. Сталі партыямі зьяўляцца ў рэволюцыйны камітэт і запісвацца ў атрады.

— Прыйшлі запісацца ў атрад, хочам узяць удзел у заваяваньні савецкай улады на Беларусі...

Няўдачная спроба скінуць савецкую ўладу ў Рудабелцы была зроблена ў канцы сакавіка 1919 году.

Распласьтаваньне вёскі ў Рудабельскім раёне адбывалася павольна, але пэўна, цьвёрда, бяз жадных эксцэсаў. Бедната на чале з камітэтамі беднаты мела значны ўплыў. Шляхецка-кулацкія элементы вельмі былі нездаволены тым, што сялянства ўсё больш і больш рэволюцыянізавалася.

У 20 числах сакавіка 1919 г. пайшлі чуткі, што ў шляхецкіх пасёлках: Харомнае, Зазер'е, Смалавіцы, Бэркаў, Зацішша, Доўгія Нівы, Парэчча, Пухічын і інш. зьявіліся падазроныя асобы. Перадавалі, што ноччу недзе наладжваецца пасяджэньне. Сталі пагаворваць, што ў лесе, між Харомным і Смалавіцай, будуюцца бліндажы, акопы...

Рудабельскі валвыканком спачатку на гэтыя чуткі не зьвярнуў належнае ўвагі:

- У страха вочы вялікія...

Але калі гэтыя чуткі сталі вельмі пашырацца, калі сталі наглядацца пэўныя трывожныя зьявішчы, Рудабельскі валвыканком наладзіў разьведку.

Праз два дні разьведка паведаміла:

— Сапраўды ў лесе, між Харомным і Смалавіцай, начамі будуюцца бліндажы. У Мазыры—вораг, у Гомелі таксама савецкая ўлада параможана, Пятлюра наступае на Рудабелку.

Некалькі сялян прывезьлі ў Рудабельскі валвыканком надрукаваныя на шапірографе адозвы-лістоўкі, якія невядомымі раскідаліся і расклейваліся па вёсках. У гэтых адозвах за подпісам нейкага часовага камітэту гаварылася:

„Грамадзяне, досыць пакутваць пад бальшавіцкаю няволяю. Бальшавікоў неабходна скінуць і стварыць дэмократычную ўладу, якая-б да ўсіх адносілася аднолькава. Пры падтрыманьні польскага войска і вялікага гэтмана Пятлюры тут мы хочам скінуць бальшавікоў. Зьвяртаемся да вас, грамадзяне, за падтрыманьнем. Мы ідзем вызваляць сялянскае насельніцтва ад комуністых і жыдоў. Тых, хто супроць нас, мы жорстка пакараем. Наша рука цьвёрдая. Прэч бальшавікоў! Няхай жыве дэмократыя! Сьмерць комуністым і жыдом!"

Становішча стала сур'ёзным.

Калі рэакцыйныя элементы сталі здольны на такія рэчы, як раскідваньне адозваў, як пабудова бліндажоў і г. д.,—значыць справа стала дрэннай. Быў пасланы ў Бабруйск адзін з членаў валвыканкому за падтрыманьнем і патронамі. Калі гэты прадстаўнік прыехаў у Бабруйск, то аказалася, што Бабруйскі гарнізон выехаў у Гомель для прыдушэньня стрэкапытаўскага паўстаньня. Дапамогі з Бабруйску чакаць ня прыходзілася. Ваеннай амуніцыі ў Бабруйску таксама ня было. Усё чым бабруйскія таварышы маглі дап магчы, яны дапамаглі, г. зн. далі... 500 патронаў.

Малавата, але нічога ня зробіш. Прышлося спадзявацца на свае ўласныя сілы.

Калі пасланы ў Бабруйск таварыш вярнуўся назад, быў склíканы агульны сход партыйнай організацыі разам з усімі спачуваючымі. Таварыш, які прыехаў з Бабруйску перад гэтым сходам выступіў з дакладам.

— Справы досыць сур'ёзныя,—гаварыў ён. Гомель паў, Мазыр у руках пятлюраўцаў. Пад Слуцкам адбываюцца бойкі з палякамі, контр-рэволюцыйныя элементы пачалі ажываць. Між Глускам і Бабруйскам зрэзаны тэлеграфныя слупы. У шляхецкіх пасёлках пачалі шмыгаць цёмныя асобы, то тут, то там раскідваючы лістоўкі з заклікам паўстаць супроць савецкай улады. Шляхта падняла галаву і казала, што бліжэйшымі днямі будзе разагнаны валвыканком і што ўсе комуністыя будуць перабіты.

— Трэба,--казаў далей дакладчык,—быць напагатове. На вялікую дапамогу з боку Бабруйску разьлічваць няма чаго. Але зусім без дапамогі—нас не пакінуць.

— Ня верце ўсім выдумкам контр-рэволюцыянэраў. Няправільна, што нашы правадыры перабіты, трэба быць рашучым, трэба на выступленьне ворагаў рэволюцыі адказваць больш жорсткім контр-ударам. Улады добраахвотна мы не аддамо. Мы лічым, што самі сяляне, асабліва бедната, пойдзе разам з намі, з бальшавікамі абараняць заваёвы Кастрычніка і г. д., і г. д.

Настрой усіх прысутных ад гэтага выступленьня ўзьняўся. Таварышы, якія былі паапускалі насы, сталі больш бадзёрымі. Была організавана надзвычайная тройка: Ляўкоў, Адзінцоў, Гашынскі, якая павінна была на выпадак выступленьня кіраваць абаронай.

У нядзелю адбыўся шырокі мітынг з прадстаўнікамі сялян ад усіх паселішч. За гэтыя некалькі дзён—між сходам партыйнай організацыі і шырокім мітынгам—чуткі сталі яшчэ больш расьці. Перадавалі, што забіты Малаховіч, Салавей і наогул усе мясцовыя правадыры, што ў Петраградзе і Маскве савецкая ўлада скінута, што засталося толькі захапіць Рудабелку і Бабруйск і... уся Расія стане дэмократычнай.

Сяляне, асабліва бедната, згуртаваліся вакол партыйнай організацыі і валвыканкому. Работа валвыканкому прыпынілася.

Сяляне з розных куткоў пачалі прыносіць паляўнічыя стрэльбы, бомбы, патроны і г. д.

Верхам на кані прыехаў за 40 вёрст селянін і перадаў

— Таварыш старшыня валвыканкому, я знайшоў пару патронаў. Ведаю, што ў вас на іх вялікая патрэба. Прымеце, калі ласка.

Партыйная організацыя была пераведзена на казарменнае становішча. У канцы сакавіка адбыўся шырокі мітынг. Адразу ж пасьля мітынгу ўцёк справавод ваеннага аддзелу Гавароўскі, захапіўшы з сабой сьпіс партыйнай організацыі. З Рудабельскага арыштнага дому ўцёк, разабраўшы дрыўляную сьценку, шпіён Савіцкі. Становішча стала вельмі напружаным.

Пад вечар 1-га красавіка з вёскі Гаці хутка прыехаў селянін і паведаміў:

— Атрад у 50 чалавек на чале з камандзірам на белым кані заняў хутар Харроннае, дзе ён і разьмясьціўся на начлег.

Рудабельскі Валвыканком выбраў 11 спрытных таварышоў і адправіў іх у разьведку. Трэба было высьвятліць сілы і мэты атраду, які заняў хутар Харроннае. Вакол валвыканкому выставілі патрулі з партыйцаў і спачуваючых сялян. Высланай разьведцы было дадзена заданьне:

— Абавязкова выведаць, што гэта за атрад, якія ён мае намеры, а ў выпадку патрэбы ўступіць з ім у бойку, каб даць магчымасьць Рудабелцы падрыхтавацца да абароны.

Разьведка адправілася ў дарогу. Ціхенька, ланцужком, хаваючыся за прыдарожныя дрэвы, дасягнулі таварышы хутара селяніна-бедняка, недалёка ад Хароннага.

Выклікалі гаспадара:

— Абавязкова трэба выведаць, што робіцца на хутары Хароннае.

— Будзе выканана,—адказаў селянін.

Разам з сваімі таварышамі яны надзелі на плечы клункі, палажылі туды зьмяты хлеб, парабілі ў гразь лапці, абышлі вёрст



**т. Адзінцоў,—адзін з былых рудабельскіх партызанаў.**

з 5 вакол хутару Хароннае і пайшлі ў напрамку да Хароннага з супроцьлеглага боку.

— Адкуль вы?—сустрэў іх знаёмы селянін з Хароннага.

— У Азарычах былі на кірмашы, коняй хацелі купіць. Не знайшлі добрых. Або зусім дарагія, не для нашага брата, або такая здыхляціна, што і купляць нявыгадна.

— Дамоў зараз ідзеце?

— Але, ідзем дамоў. Ды што гэта ў вас такое? Нейкія незнаёмыя салдаты.

— Ды гэта-ж пятлюраўцы прыйшлі. Ідуць супроць бальшавікоў. Іх усяго 50 чалавек прыехала. Частка пайшла ў лес. Частка разьмясьцілася сярод сялян.

Разьведчыкам больш нічога і ня трэба было. Вярнуліся да рудабельскіх разьведчыкаў і перадалі ўсё, што яны бачылі і чулі. Рудабельскія хлопцы парашылі ўраз-жа зрабіць напад на хутар, прагнаць „пятлюраўцаў" і захапіць ініцыятыву ў свае рукі.

— Трэба як-небудзь падбадзёрыць рудабельцаў.

Ціханька па адным увайшлі 11 таварышоў у вёску Хароннае. Сілы былі разьмеркаваны наступным чынам: каля брам, за шуламі, расставілі па адным чалавеку з набітымі стрэльбамі. У крайні двор увайшло трое таварышоў.

Праз заднія дзьверы сталі хутка ўцякаць некалькі фігур. Па іх пачалі страляць. З усіх хат сталі выбягаць напалову разьдзетыя „пятлюраўцы". Таварышы, якія стаялі за шуламі, распачалі іх па адным прыстрэльваць. На працягу 15 хвілін 9 чалавек было ўзята ў палон, некалькі забіта і двум-тром толькі—удалося ўцячы.

Пры допыце палонных высьветлілася, што гэты атрад зьяўляўся авангардам вялікага пятлюраўскага атраду, які ідзе з Мазыра на Бабруйск.

Удалы налёт рудабельскіх разьведчыкаў папсаваў плян пятлюраўскага атраду і абнадзеіў рудабельскіх сялян.

„Пятлюраўскія салдаты", якія ўцяклі, перадалі рэштцы свайго атраду, што на іх напала вельмі вялікая сіла бальшавікоў, усе перабіты і ледзь-ледзь ім удалося выратавацца. Атрад палічыў лепш адступіць да галоўных сіл.

Рудабельскія сяляне, убачыўшы, што чорт ня так страшан, як яго малююць, сабраліся з духам.

— Калі 11 нашых чалавек маглі разьбіць у пух і прах атрад у 50 чалавек „пятлюраўцаў", дык калі мы дружна, сьмела і энэргічна выступім супроць, дык мы разаб'ём самую вялікую іх сілу.

Усю ноч ніхто ня спаў. Толькі к раніцы адзетыя крыху прыляглі задрамаць.

Назаўтра пад вечар сталі зноў паступаць трывожныя данясеньні пра наступленьне ворага. Падбягае веставы:

— У Лучыцах разагнаны валвыканком, забралі старшыню.

З Хойні прыімчаўся старшыня сельсавету:

— На маіх вачох забілі лучыцкага старшыню валвыканкому

Бандыты сабралі ўсю вёску каля берага ракі Пціч і спыталі „хто за тое, каб расстраляць бальшавіка-старшыню"? Вёска маўчала. Спыталі яшчэ раз. Ізноў маўчаньне. „Калі вы не галасуеце за пакараньне сьмерцю бальшавіка-старшыні, значыць вы таксама бальшавікі і вас трэба расстраляць. Рыхтуйцеся"—адаў іх камандзір загад бандытам. Бандыты накіравалі свае стрэльбы на сялян, але, не дабіўшыся толку, адвялі старшыню да самага берагу ракі і расстралялі на вачох усяе вёскі.

З Нестановіч паведамілі:

— Праз нашу вёску прайшоў атрад у 18 чалавек пры шаблях і стрэльбах, пыталі дарогі на Рудабелку.

З вёскі Грабя перадалі:

— Атрад чалавек у 40 у цывільным ідзе ў напрамку да Рудабелкі.

Такія-ж данясеньні паступаюць з Бубноўкі, Андрэеўкі і іншых мясцовасьцяй.

І так вялікім паўколам на Рудабелку насоўваўся вораг. Старшыні сельсаветаў выклікалі з вёсак сялян—былых салдат і загадалі ім:

— Ты—чалавек бывалы. Пайдзі ў разьведку. Калі толькі заменціш, што падыходзіць які-небудзь атрад, зараз-жа садзіся на каня і праз лес, самым кароткім шляхам, бяжы ў валвыканком Рудабелкі і дакладвай.

І сяляне, асабліва бедната, увесь час сачылі за рухам варожых атрадаў і даносілі ў валвыканком. Пад канец прыскакаў селянін і паведаміў, што ў Парэччы адбываецца пасяджэньне вайсковага штабу пад кіраўніцтвам бязрукага шляхціца.

Сталі рыхтавацца да нападу. На сцэну выступіла надзвычайная тройка. Старшыня яе на шматку паперы напісаў загад:

— Неадкладна адчыніць царкву і на званіцы устанавіць назорны пункт.

Вёрст за 10—12 у розныя бакі ад Рудабелкі была выслана разьведка, выстаўлены заставы. У Ратміравічы паслалі тэлеграму для перадачы ў Бабруйск з просьбаю аб сьпешнай прысылцы дапамогі, бо наступае вораг. У гэтай тэлеграме быў таксама даны кароткі пералік падзей. Было зазначана, што Капаткевіцкі валвыканком арыштаваны і адведзены ў лес; Лучыцкі старшыня валвыканкому расстраляны; Круковіцкі валвыканком разагнаны, і ўтварылася нейкая група, якая сябе называе часовым камітэтам. Вораг наступае на Рудабелку з мэтаю далейшага прасоўваньня на Бабруйск.

Увесь Рудабельскі раён быў абвешчаны на ваенным становішчы. Мобілізаваны ўсе сілы для абароны. Сялянская бедната, узброеная чым папала, зьявілася і аддала сябе пад загад надзвычайнай тройкі.

Раптам прыйшло паведамленьне:

— З Бабруйску прыйшоў атрад, які, высадзіўшыся ў Ратміравічах, дайшоў да Дубровы і... вярнуўся назад на станцыю.

Члены надзвычайнае тройкі ня ведалі, што рабіць.

— Што гэта мог быць за атрад?

Калі гэта дапамога з Бабруйску, дык чаму-ж гэты атрад вярнуўся назад і ня прыйшоў у Рудабелку, дзе яго з нецярплівасьцю чакаюць.

Узьнікла падазрэньне: можа быць гэты атрад варожы, які зайшоў з тылу. Старшыня тройкі ўзяў у маёнтку Урангеля пару добрых коняй і, перадаўшы абарону раёну аднаму з членаў тройкі, паехаў з адным таварышам на станцыю Ратміравічы каб даведацца ў чым справа. Ад Рудабелкі да Ратміравічаў вёрст 25. Шпарка нясьліся двое верхавых па дарозе да станцыі Ратміравічы. У аднэй з вёсак, што пападаліся па дарозе, паведамілі, што атрад, які ішоў з Ратміравічаў і вярнуўся туды назад, зьяўляецца атрадам чырвоных.

Калі старшыня тройкі з сваім таварышом прыехаў у Ратміравічы, то аказалася, што там знаходзіцца старшыня Бабруйскага выканкому тав. Равінскі з 18 маладымі комунарамі.

Тав. Равінскі ўзрадаваўся:

— Ці гэта ты? Адкуль, якім спосабам? Што чуваць у Рудабелках? Мне ўжо перадавалі, што валвыканком разграмілі, а вас усіх перабілі.

— Гэта я прыехаў выведаць, які атрад зьявіўся ў нас у тыле. Валвыканком на месцы, здавацца ня зьбіраемся...

Покуль таварышы абмяркоўвалі ўсё, што здарылася за апошні час, прыйшла тэлеграма з Менску:

— Высланы на дапамогу Рудабельскаму валвыканкому атрад чырвонаармейцаў.

Усе былі вельмі рады.

— Хто прасіў з Менску аб высылцы атраду?

— Раней, чым рушыцца сюды,—адказаў тав. Равінскі,—я тэлеграфна зьвярнуўся ў Менск за дапамогай.

Парашылі чакаць на станцыі, покуль прыбудзе атрад чырвонаармейцаў. Тым больш, што ў Рудабелках было ўмоўлена, калі дапамога будзе, то ніякіх паведамленьняў не пасылаць.

Між тым падзеі вакол Рудабелкі разгортваліся сваім парадкам: пад вечар наступленьне па ўсім фронце аднавілася.

Атрад ворага чалавек у 80, кружным шляхам, лесам, зайшоў у Рудабелкі і залёг ланцугом на плошчы каля валвыканкому. Вартаваў каля выканкому селянін-бедняк Манойла. Ён сядзеў і кляваў носам. У яго была стрэльба ў руках набітая толькі адным патронам.

Вакол жудасная ціша. Здалёк даносяцца рэдкія стрэлы. Да Мануйлы падышоў чалавек адзеты ў цывільнае.

— Эй, братва,—крыкнуў цывільны,—бальшавіка сцапаў!

— Сукін ты сын! Бальшавіка ня так-та лёгка злавіць,—адказаў Манойла і выстрэліў у яго. Цывільны пахіснуўся і ўпаў на зямлю. На стрэл прыбеглі комунары, якія таксама знаходзіліся на дзяжурстве.

Варожы атрад кінуўся ў атаку. Выбеглі комунары, духам яны ня палі, і закідалі ворага бомбамі.

Зжахнуўся вораг. Такога супраціўленьня ён не чакаў. Тым больш, што іх галоўны каманд р, адзеты ў цывільнае, быў забіты яшчэ да наступленьня. Бачачы перапуд сярод наступаючых комунары разам з сялянамі шпарка рассыпаліся ў ланцуг і адкрылі моцны агонь па наступаўшых. Ворагі пачалі ўцякаць.

У гэты самы час, калі дзякуючы дагадлівасьці бядняка-селяніна, які дабраахвотна ўзяўся абараняць валвыканком, было адбіта першае варожае наступленьне, на станцыю Ратміравічы прыбыў тэрміновым цягніком атрад чырвонаармейцаў з кулямётамі ў колькасьці 180 штыкоў.

Тав. Равінскі, карыстаючыся ўладаю старшыні павятовага выканаўчага камітэту, перадаў прыбыўшы чырвонаармейскі атрад у поўнае распараджэньне надзвычайнае тройкі па абароне Рудабелкі. Старшыня надзвычайнае тройкі тэрмінова выклікаў старшынь сельсаветаў бліжэйшых вёсак і даў загад:

— Праз гадзіну сабраць 100 фурманак для перакідкі чырвонаармейцаў у Рудабелку.

Сяляне хутка адгукнуліся. Даведаўшыся, што прыбыў чырвонаармейскі атрад, настрой сярод ваколічнага сялянскага насельніцтва ўзьняўся. Фурманкі былі сабраны за 45—50 хвілін. Чырвонаармейцы расьселіся ў фурманкі і рушыліся ў Рудабелку.

Не даяжджаючы да вёскі Аземлі старшыня надзвычайнае тройкі запытаў чырвонаармейцаў:

— А вы абедалі?

— Раніцою толькі елі.

Прыехаўшы ў вёску, старшыня надзвычайнае тройкі склікаў сялян і заявіў:

— Таварышы сяляне, на дапамогу да нас прыбыў атрад чырвонаармейцаў. Гэты атрад малюткі дзень нічога ня еў. Праз гадзіну—паўтары яму давядзецца ўступіць у бой з ворагамі рэволюцыі. Чырвонаармейцаў трэба накарміць.

Было напярэдадні сьвят. Сяляне адразу па некальні чырвонаармейцаў узялі да сябе і пачалі іх частаваць.

У гэты час прыймчаўся з Рудабелак веставы з данясеньнем

— На Рудабельскі валвыканком быў зроблены напад. Вораг адбіты, есьць забітыя і параненыя. Настрой бадзёры, трымаемся. Чакаем загаду.

Старшыня надзвычайнае тройкі з гэтым-жа веставым накіраваў адказ:

— Трымайцеся. Дапамога ідзе. Прыбыў чырвонаармейскі атрад.

Веставы паімчаўся назад.

Па ўсіх вёсках з надзвычайнаю шпаркасьцю разьнеслася радасная вестка:

— Наступленьне на Рудабельскі валвыканком адбіта. Прыбыў на дапамогу чырвонаармейскі атрад.

Чырвонаармейцы, падмацаваўшыся, парашылі адпусьціць фурманкі і пайсьці пеша. У лесе на фурманках ніяк не павернешся.

Вестка, што вораг адбіты, яшчэ больш абнадзеіла чырвонаармейскі атрад, надала яму больш веры ў сваю моц.

Калі кепска ўзброеныя комунары і сяляне маглі адбіць напад контр-рэволюцыйнае брыдоты, то яны добра ўзброеныя напэўна справяцца з ворагам.

У Дуброве чырвонаармейцаў яшчэ раз падкармілі. Ва ўсіх вёсках атрад сустракалі з радасьцю і крыкамі „Гура". Самі абаронцы Рудабельскага валвыканкому набраліся больш адвагі і сталі паглядваць у той бок, адкуль чакалі падмогі.

Прыбыў чырвонаармейскі атрад. Вораг адступіў.

У гэтую самую ноч ва ўсім раёне сялянства перажывала вельмі трывожныя хвіліны.

Бедната ведала, што калі будзе разгромлены валвыканком, калі ўсталюецца ўлада кулацка-шляхецкіх элемэнтаў, ім давядзецца разьвітацца з атрыманаю ў часе Кастрычнікавай рэволюцыі зямлёю.

Бедната ў гэтую ноч брала актыўны ўдзел у барацьбе з контр-рэволюцыйнымі элемэнтамі. У вёсках, дзе толькі сяляне заўважвалі падазроных асоб іх арыштоўвалі, білі і нават забівалі.

Быў выпадак, калі ў вёсцы Ляўстыкі сяляне, зларіўшы аднаго маладога чалавека, западозрылі ў ім бандыта і забілі. а хвілін праз 15 сюды прыйшоў рэволюцыйны атрад сялян і тады выявілася, што забіты зьяўляецца чырвоным пасланцом—братом аднаго з удзельнікаў падышоўшага атраду.

Вораг быў разьбіты. І больш наступаць на Рудабелку ён не адважыўся. Назаўтра сяляне прывялі ў валвыканком цэлы шэраг арыштаваных асоб, пераважна шляхецка-кулацкага элемэнту і іншых, замешаных у падтрыманьні ворага.

Запрацавала надзвычайная тройка. Нявінаватых і выпадкова замешаных адпусьцілі, прычым папярэдзілі, каб у далейшым былі больш асьцярожнымі.

Другая група была накіравана ў Бабруйск у турму. І толькі трое к'раўнікоў—зьбегшага дзелавода вайсковага аддзелу Гавароўскага, панскага паслугача Трацэўскага і яшчэ трэцяга—расстралялі.

Рука рэволюцыйнага пролетарыяту аказалася куды цьвярдзейшаю рукі контр-рэволюцыянэра.



часу перашкодзіу ім з[illegible] гэту злую справу. Палілі палякі ня толькі грамадзкія будынкі, у сваёй сьляпой нянавісьці пушчалі з агнём яны і дамы радавых менскіх грамадзян. Па ўсёй Маскоўскай, як і а іншых вуліцах, палалі дамы насельніцтва, якое з сьлязьмі на вачох упрашвала не пазбаўляць іх прытулку. Але гэтыя літаньні не знайшлі спачувальнага водгуку ў сэрцах белапалякаў.

Дзевятага і дзесятага, а асабліва ноч з дзесятага на адзінаццатага ліпня 1920 году былі самымі страшнымі гадзінамі, якія калі-небудзь даводзілася перажываць насельніцтву Менску. Усюды, ва ўсіх канцох гораду палалі пажары, па вуліцах бегалі разьяраныя банды польскіх салдат і афіцэраў. Яны выбівалі ложамі вінтовак дзьверы ў кватэры жыхароў, забіралі ўсё хоць-колькі-небудзь каштоўнае, зьніштажалі ўсё, чаго нельга было забраць, гвалцілі і зьдзекаліся над жанчынамі. Усю гэту апошнюю перад прыходам Чырвоных ноч стагнаў горад, поўныя адчаю крыкі, каго зьбівалі і забівалі, ляцелі ў чырвонае ад пажараў неба.

А ў гэты час зусім ужо недалёка ад Менску кіпелі бойкі паміж Чырвонай арміяй, якая наступала, і белапольскімі вайсковымі часьцямі, што ў паніцы адступалі на захад... У нядзелю 11 ліпня чырвоныя часьці ўвашлі ў Менск, радасна вітаныя насельніцтвам.

Партызанскія атрады з рабочых і сялян, тут-жа ў парадку добраахвотнасьці сформаваныя, поўныя палкай нянавісьці да сваіх прыгнятальнікаў, прасьледвалі белапалякаў, якія ў паніцы адступалі на захад, зьніштажалі іх абозы, помсьцячы ім за расстрэлы, пагромы і ўціскі.

Дванаццатага ліпня легіёны Пілсудзкага пад націскам чырвоных войск прымушаны былі аслабаніць ад сваёй назольлівай прысутнасьці і горад Кіеў.

* *
*

Наступленьне чырвоных войск разьвілося з імклівай хуткасьцю, якая зьніштажала на сваім шляху ўсе перашкоды. Дванаццатага ліпня быў намі ўзяты Камянец-Падольск, 14—Вільня, 19—Горадня і Баранавічы, першага жніўня нечаканым ударам была захоплена першакляснага крэпасьць Брэст-Літоўск. А там далей Ломжа, Ковель, Луцк, Млава, Седлец. У сярэдзіне жніўня Чырвонае войска стаіць ужо каля Варшавы, каля подступаў да якой разгараюцца жорсткія крывавыя бойкі.

Гэтыя дзівосныя посьпехі чырвоных войск палохаюць не на жарт буржуазію захаду, таму што справа ня толькі ў захапленьні чырвонымі гарадоў... У Польшчы сярод рабочых нарастаюць рэволюцыйныя настроі, у Польшчы пад старшынствам старога бальшавіка т. Мархлеўскага ствараецца часовы польскі рэўком, у Варшаве абраны там савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў выпушчае агалашэньне з заклікам барацьбы супроць польскіх памешчыкаў і капіталістых. Справа пачынае папахваць магчымасьцю пролетарскае рэволюцыі ў Польшчы,—пахам, які прыходзіцца моцна не па душы банкірам, памешчыкам і фабрыкантам усіх краін і ўсіх нацый.

Імпэрыялістыя дзейнічаюць. У Польшчу пасьпешна адпраўляюцца францускія генэралы і афіцэры-генштабістыя, падвозяцца з Францыі гарматы, кулямёты, знарады... Урангель таксама пасьпешна прызнаны „дэ-юрэ“ францускім урадам, наступае... Ангельшчына шле Савецкаму ўраду запатрабаваньні спыніць наступленьне на Варшаву, пагражаючы абстрэлам нашых савецкіх берагоў.

Бойкі пад Варшавай цягнуцца чэцьвера сутак. Адарваная ад сваіх баз, недастаткова добра ўзброеная, стомленая бойкамі, Чырвоная армія адступае з-пад Варшавы, 21 верасьня адкрываецца савецка-польскія мірныя перамовы ў Рызе, а 18 кастрычніка 1920 г. ўстанаўляецца замірэньне на ўсім фронце.

. . . . . . . . . . . . . . . .




**Падпольная бальшавіцкая друкарня часоў польскае акупацыі (захована ў Музэі Рэволюцыі).**

Прайшло дзесяць год. Аслабанёная ад белапольскага ўціску Савецкая Беларусь у цесным саюзе з іншымі брацкімі ёй савецкімі рэспублікамі бадзёра, ня гледзячы на цяжкасьці, будуе социялізм у сваёй краіне.

Растуць новыя фабрыкі і заводы, дамы з кватэрамі для рабочых, электрастанцыі. Зьмяньваецца паступова твар савецкай вёскі, дзе, замест мізэрных індывідуальных сялянскіх гаспадарак, ствараюцца воляю беднаты і серадњакоў, пад кіраўніцтвам пролетарыяту, колгасы, дзе растуць, на месцы былых памешчыцкіх маёнткаў, саўгасы—збожжавыя фабрыкі савецкай краіны.

З радасьцю любуецца пролетары ўсяго сьвету за гіганцкім будаўніцтвам социялізму ў рэспубліцы працы. З глухой нянавісьцю сачаць за нашымі посьпехамі і капіталістыя, рыхтуючыся да вайны з краінай саветаў, рыхтуючыся сілай зброі, як і ў 1920 годзе, перашкодзіць нам дасягнуць нашай вялікай мэты.

Пролетары савецкай краіны ня хочуць вайны. Рабочая кляса рэспублікі саветаў, пад кіраўніцтвам сваай компартыі, абапіраючыся ў вёсцы на беднату і ў цесным саюзе з серадняком, будуе свой новы сьвет, расчышчае сваёй гіганцкай творчасьцю дарогу да комунізму.

Але, калі гэта будзе патрэбна для абароны Савецкай краіны, ён зноў возьме ў рукі вінтоўку і пойдзе біць з яе тых, хто перашкаджае яго будаўніцтву.

Мы хочам спакою, але мы гатовы да змаганьня.

## ЯШЧЭ АДЗІН ГІГАНТ САВЕЦКАГА МАШЫНАБУДАЎНІЦТВА.



**Вялізны завод сельска-гаспадарчых машын, закончаны і пушчаны ў ход у Растове н/Д.**

# РАБОЧЫМ—КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЛЬЛЁ.



Адзін з новапабудаваных у Віцебску дамоў для рабочых.



ПАБЯГУЦЬ ЭЛЕКТРАПРАВАДЫ... НА ВІЦЕБСКАЙ ПАДСТАНЦЫІ АСІНБУДУ



# Трэцяя Марна



Нарыс П'ЕРА ДЗЮКЛЁ.

Малюнкі ВЫХАДЦАВА.

I

— Не, панове, я ня зусім пагаджаюся з вамі,—казаў былы паручык, а цяпер шофэр банкіра Пулета Дорскі, паднімаючы да сьвятла сваю шклянку віна і, здавалася, з вялікаю ўвагаю разглядаючы яго,—я ня зусім пагаджаюся з вамі... Палякі зрабілі напад на Расію (хоць і бальшавіцкую), занялі Кіеў, Менск і шмат іншых гарадоў... Радавацца нам ці шкадаваць? быць на баку палякаў ці на баку бальшавікоў?

— Ну, здаецца, справа зразумелая, паручык,—нездаволена заўважыў таксама былы палкоўнік Абаленскі.—Усё-ж лепш, чым бальшавікі!.. Хоць з чортам, але ня з імі.

— Так, то яно так,—задуменна прамовіў Дорскі,—бальшавікоў і я ненавіджу... не дарэмна ў контр-разьведцы ў Урангеля працаваў. А аднойчы, у восемнаццатым годзе было гэта, у чырвоных пад расстрэлам стаяў. Дзякаваць, казакі сваячасова падскочылі да выратавалі, а то-б не здабраваць...

Та-а-к... І ўсё-такі радуюся я, што Менск чырвоныя назад ад палякаў адабралі, што яны пана Пілсудзкага да Варшавы гоняць. Нядобра можа гэта, а я ўсё-такі радуюся... як расіец радуюся!

— Ты ня маеш рацыі, Дорскі!—гукнуў з кутка кавярні кавалярыйскі ротмістар Малышаў.—Зусім ня маеш рацыі... Перамогам бальшавікоў нам няма чаго радавацца, таму што гэтыя посьпехі толькі ўзмацняюць іх уладу ў Маскве.

— Аднак Брусілаў заклікае афіцэрства аб'яднацца ў барацьбе супроць Польшчы—хтосьці нерашуча заўважыў.

— Глупства — каротка адрэзаў ротмістар Малышаў,—Брусілаў ніколі не вызначаўся ўстойлівасьцю характару... Старэнькага ў Маскве Чэка проклямацыю падпісаць прымусіла. Справа зразумелая!

— Але чаму? — засупярэчыў ротмістру паручык Дорскі,—з проклямацыяй Брусілава згодны шмат хто, нават у эміграцыі.

— Пакіньце! — махнуў рукою Малышаў.

І, выпіўшы сваю шклянку віна, ён дадаў:

— Я, напрыклад, цераз два дні ў Польшчу еду. Там расійскі атрад добраахвотнікаў формуецца і мне пасаду камандзіра эскадрону абяцалі... Цераз французаў удалося прымайстравацца.

— А грошы на дарогу даюць? — пацікавіўся нехта.

—Еду я з французскім сэнэгальскім палком, які на польскі фронт пасылаецца,—адказаў на запытаньне ротмістар,—лейтэнант Сорэль, афіцэр гэтага палка і мой добры прыяцель бярэ мяне з сабою... Ну, а грошы ўжо ў Варшаве атрымаем.

Быў тысяча дзевяцьсот дваццаты год. Наступленьне белапалякаў на Кіеў, а потым іх імклівы, пад націскам чырвоных войск, адыход ад Менску, моцна ўзрушыў парыжан—як расійскіх белагвардзейцаў, што акапаліся ў францускай сталіцы, так і самых французаў. Сярод белагвардзейскай эміграцыі на глебе вялікадзяржаўных настрояў пачаліся хістаньні. Некаторыя, асабліва супроць палякаў настроеныя, лятуцелі нават ехаць у Маскву для ўступленьня, на час савецка-польскай вайны ў шэрагі Чырвонай арміі. Адылі, справядлівасьць патрабуе сказаць, што такіх крайніх энтузыястых было вельмі нямнога, прычым і гэтыя нямногія далей парыскіх шынкаў не паехалі.

Што-ж датычыць францускай буржуазіі, дык і яна была моцна занепакоена. А раптам бальшавікі захопяць усю Польшчу, раптам і там утворыцца савецкая ўлада? І здавалася ўжо францускаму буржуа, што чырвоная хваля пракачваецца ў аслабленую пасьля вайны Нямеччыну, перабіраецца за Рэйн, захапляе тады ахопленыя цяжкім экономічным крызысам Бэльгію, Францыю...

Чырвоная здань пролетарскай рэводюцыі, што насоўвалася, пагражальна насілася па Эўропе.

II

Вызвалены ад белапалякаў Менск уздыхнуў поўнымі грудзьмі. А чырвонае войска, пакінуўшы за сабой горад, пасоўвалася ўсё далей і далей да Варшавы, нясучы на сваіх штыкох і сьцягах мір хатам і вайну палацам. Бойкі разгараліся па ўсім фронце.

— Вы чулі, не, вы чулі, што робіцца ў гэтай дзікай Расіі?—з жахам пытаў пан Бэрштэль прыгожанькую мадам Сорэль, седзячы з ёй на тэрасе аднэй з парыскіх кавярняў.—Гэтыя барбары—бальшавікі б'юць палякаў, іх войска набліжаецца да Варшавы.

— Так, я ведаю,—кіўнула яму ў адказ сваёю прыгожанькаю галоўкаю мадам Сорэль.—Мой муж з Польшчы пісаў мне аб гэтым.

— Апошнія зьвесткі!—крычэлі газэтчыкі, прабягаючы паміж столікамі з пачкамі газэт, якія яшчэ пахлі друкарскаю фарбаю.—Савецкае войска пасоўваецца далей... Чырвоныя выведнікі ў прадмесьці польскай сталіцы!...

— Чуеце?—прашаптала мадам Сорэль, сударжна сьціскаючы руку свайго сагутарніка. — Чуеце... А мой муж з сваім сэнэгальскім палком якраз каля Варшавы. Гэта жахліва!




Францыя перажывае трэцюю Марну...

— Францыя перажывае трэцюю Марну,—уздыхнуў ён у адказ пан Бэртэлё.—Толькі цяпер палажэньне куды больш сур'ёзнае... Раней, у час нямецкай вайны, пытаньне стаяла ня так востра. Там справа ішла аб страчаных або набытых (у залежнасьці ад канца вайны) Францыяй абласьцях, аб тэй ці іншай суме вайсковай кантрыбуцыі... Цяпер-жа, калі бальшавікі захопяць Варшаву і пойдуць далей—то страта для нашай старой культуры, гэта для нас поўнае банкроцтва. Нават страшна падумаць!

— А вы чулі навіну, на жаль, ня з прыемных?—запытаў, падыходзячы да століка пана Бэртэлё і мадам Сорэль, журналісты Барту.—Грузчыкі ў партох Гаўра і Шэрбурга бастуюць... Яны адмаўляюцца нагружаць караблі з амуніцыяй для Польшчы.

— Бедная Францыя... Вось куды прыводзіць нас комуністычная прапаганда—выгукнуў Бэртэлё, шаўковаю хустачкаю выціраючы пот, які багата струменіўся па яго поўным, выпешчаным раскошным жыцьцём твары. І чаго гэта глядзіць урад... Я-б...

Тут пан Бэртэлё зрабіў вельмі многазначны рух рукою, які павінен быў паказаць як-бы ён перавешаў усіх комуністых.— Ну, мне час, сказаў Барту, накіроўваючыся ў бок царквы сьвятой Магдаліны.—трэба зайсьці яшчэ ў агенцтва „Гавас“—даведацца, якія апошнія навінны. А потым за перадавы. Бывайце, шаноўны пан Бэртэлё, гонар маю кланяцца мадам Сорэль... Прывітаньне ад мяне адважнаму лейтэнанту—вашаму мужу.

III

Занепакоілася і парыская белагвардзейшчына. Спачатку, калі бальшавікі пагналі палякаў з Кіева і з Менску яны, ці лепей частка з іх, па мотывах шовіністычных, узрадаваліся. Вось, „Русь-матушка“ б'е палякаў. Але потым, калі чырвоная армія, перамагаючы, наблізілася да падступаў Варшавы — тады жывёльны страх, які не дае спакойна спаць, залез ў іх белагвардзейскую душу.

— А ротмістар Малышаў, бадай, меў рацыю,—Думаў паручык Дорскі, седзячы за рулём сваёй машыны,—Нешта дужа хутка яны наперад пасоўваюцца, чырвоныя д'яблы... Як-бы чаго дурнога ня выйшла.

Газэты, як францускія, так і белагвардзейскія, білі трывогу. Уся буржуазная Францыя, а разам з ёю і ўвесь капіталістычны сьвет з занепакоеньнем сачылі за падзеямі, якія разьвіваліся на фронце. Усе погляды—адны, што спачувалі маладой савецкай рэспубліцы (погляды рабочых), другія—поўныя варожасьці і трывогі—былі накіраваны на ўсход.

* * *

Натоўпы народу стаялі на вялікіх бульварах, каля шматпавярховага будынку рэдакцыі буржуазнай францускай газэты „Матэн“.

— Кажуць, бальшавікі адступілі з-пад Варшавы, — радасна апавядаў, курачы таўстую гаванскую сыгару, нейкі пан, у капялюшы.

—Не, а я чуў зусім адваротнае,—адказаў яму другі,—худзенькі і з шматлікімі кропелькамі рабаценьня на твары,—Варшава захоплена савецкім войскам, над Бельвэдэрам разьвіваецца чырвоны сьцяг.

— Што вы, што вы!—замахаў рукамі першы з тых, што гаварыў,—Францыя паслала ў Польшчу сваіх лепшых афіцэраў на чале з гэнэралам Вэйнгардам, салдат, гарматы, кулямёты... Мы перамаглі немцаў, перамажам і бальшавікоў!




**Натоўпы народу стаялі на вялікіх бульварах...**

— Цішэй, цішэй,—зашыкаў натоўп на тых, што спрачаліся. У акне рэдакцыі зьяўляецца новая асьветленая вітрына... апошнія зьвесткі...

— Ну, што я казаў?—радасна выгукнуў пан у капялюшу.— Бальшавікі адбіты ад Варшавы, яны адступаюць... Няхай жыве Францыя!

Буржуазны сьвет уздыхнуў вальней, даведаўшыся аб адыходзе чырвоных войск з варшаўскіх позыцый. Небясьпека пролетарскай рэволюцыі, якая магла зараз-жа разьвіцца ў Эўропе, была часова ліквідавана. Ці на доўга? Мы цьвёрда верылі, што не—не на доўга.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Такімі была ахоплена настроямі буржуазія Захаду ў дні вызваленьня Савецкай Беларусі ад белапольскае няволі, у дні савецка-польскай вайны тысяча дзевяцьсот дваццатага году. Клясавы характар гэтай вайны добра адчуваўся і ў Парыжы.

## БУДАЎНІЦТВА САВЕЦКАЕ ГРУЗІІ



**Пабудова ў Чакве (каля Батума) жалеза-бэтоннага корпусу гарбатняе фабрыкі.**

# 1920

Белапольскія банды, у саюзе з беларускай буржуазіяй, „вызвалялі“ Беларусь ад бальшавікоў.

У змаганьні за права вольнае эксплёатацыі працоўнага насельніцтва яны зьнішчалі цэлыя гарады, палілі сёлы, зьдзекаваліся з рабочых і сялян, зьбівалі іх, расстрэльвалі.



Барысаў. Савецкая вуліца (б. Нікалаеўская), зруйнаваная белапалякамі.



Барысаў. Полацкая вуліца, зруйнаваная беляпалякамі.

# 1930

Пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі пролетарыят БССР, у саюзе з пролетарыятам усяго Савецкага Саюзу, аднаўляе разбураную буржуазіяй гаспадарку, будуе савецкую соцыялістычную Беларусь, зьнішчыў эксплёатацыю буржуазіі і абшарнікаў, ліквідуе кулацтва, як клясу.



Пабудова Дому Ўраду ў Менску.



На пабудове дамбы для Віцеоскай падстанцыі Асінбуду.

# НАРОД ЗА КРАТАМІ

**ПОЛІТ-МОНТАЖ ........ т. КЛІМЧУКА**

**„Мы хацелі быць людзьмі, але нам гэта ў Польшчы забаронена".**
***(Тарашкевіч на працэсе Грамады).***

## НАША ПОЛІТЫКА— ПОЛІТЫКА МІРУ

### Заява СНК РСФСР

Ураду Польшчы і польскаму народу 28/І—1920 г.

„...2) Захоўваючы ў моцы апошнюю мірную прапанову Народнага Камісарыяту па замежных справах ад 22/XII 1919 г., Савет Народных Камісараў, далёкі ад якіх-небудзь агрэсыўных намераў, заяўляе, што чырвонае войска не пяройдзе сучаснай лініі беларускага фронту, якая праходзіць каля наступных пунктаў: г. Дрыса, г. Дзісна, г. Полацак, гор. Барысаў, м. Парычы, ст. Пціч, ст. Белакатовічы".

„Палякі нам вайну навязалі... спачатку палякі мелі посьпех і на паўднёвым захадзе. Яны адабралі Кіеў. Потым прайшло досыць шмат часу, пакуль наша армія здолела згуртаваць свае сілы і пачаць наступленьне... Мы зрабілі амаль нячуваны ў ваеннай гісторыі паход. Чырвоная армія прайшла без перапынку 500, нават 600, у шмат якіх мясцох да 800 вёрст і дайшла да Варшавы. Варшава лічылася амаль загінуўшай для Польшчы,—так, прынамсі, лічыў увесь міжнародны друк. Пасьля здарыўся пералом. Калі мы падышлі да Варшавы, нашае войска аказалася настолькі змучаным, што ў яго не хапіла сіл перамагаць і далей, а польскае войска, падтрыманае патрыотычным уздымам у Варшаве, адчуваючы сябе ў сваёй краіне, знайшло падтрыманьне, знайшло новую магчымасьць ісьці ўперад. Аказалася, што вайна дала магчымасьць дайсьці амаль да поўнага разгрому Польшчы, але ў рашучы момант у нас не хапіла сіл".

„...Калі палякі пачалі свае наступленьне, з нашага боку быў урачыста і фармальна запрапанаваны мір на ўмовах больш выгадных, чым тыя, якія яны атрымалі ад нас цяпер, ня гледзячы на вялізарнае паражэньне, якое наша войска панесла пад Варшавай". (Ленін зб. тв. т. XVII).

## КОНСТЫТУЦЫЯ НА ПАПЕРЫ

„Кожны грамадзянін Польшчы мае права захоўваць сваю нацыянальнасьць і разьвіцьцё сваёй мовы і нацыянальных асаблівасьцяй" (§ 109). „Констытуцыя забясьпечвае меншасьцям польскае дзяржавы поўнае і свабоднае разьвіцьцё іх нацыянальных асаблівасьцяй шляхам аўтономных меншасьцёвых установ публічнага характару. Польскія грамадзяне, якія належаць да нацыянальных меншасьцяй, маюць роўнае з іншымі грамадзянамі права закладваць за свой уласны кошт добрачынныя, рэлігійныя і грамадзкія арганізацыі, школы і інш. установы і таксама свабодна ўжываць у іх сваю мову" (§ 110).

## ПОЛЬШЧА АБАВЯЗАНА

Вэрсальская ўмова, асобны трактат ад 28/VI—1919 г. аб абавязках Польшчы да тых жыхароў, якія розьняцца ад польскай большасьці расай, мовай ці рэлігіяй: § 1—аб праве ўжываньня роднай мовы ў судох; § 7—аб праве беларусаў займаць пасады ўва ўрадавых установах; § 8—замацоўвае

**Нашы думкі ў гэты дзень накіраваны на захад ад савецка-польскае мяжы, туды, дзе нашыя браты, закутыя ў ланцугох, пакутуюць на паншчыне і, сьцісну́ўшы зубы, робяць тое, што ім загадвае бізун польскага магната. За гады свайго панаваньня ў Заходняй Беларусі, белапольская шляхта ня толькі не аднавіла гэты край—зруйнаваны імпэрыялістычнай вайной, але на стагодзьдзі назад адкінула яго экономічны ўзровень. Яшчэ Прудон калісьці пісаў: „Польская шляхта—разьбэшчаны ад нараджэньня стан, які не шануе чужога права, ня мае свайго ўласнага генія, створаны толькі для прыняволеньня народа, для зьнішчэньня дзяржавы, і для нацыянальнага сораму, які хоча сёньня, як і раней, як і заўсёды, толькі эксплёатаваць". Гэтыя словы Прудона, прайшоўшы праз шмат дзесяцігодзьдзяў, засталіся актуальнымі і на сёньнешні дзень, бо, прыйшоўшая зноў да ўлады, польская шляхта прывяла да нэндзы і галечы польскі працоўны народ, зруйнавала польскую прамысловасьць, выкінула сотні тысяч працоўных на вуліцу.**

**Бот „шляхетнага" пана асабліва адчуваецца ў Заходняй Беларусі, дзе дзесяткі тысяч рабочых і сялян пасаджаны за кратамі, дзе ўсё больш разьвіваецца хронічны голад і разбурэньне працоўных мас беларускага сялянства. Глыбокі крызіс беластоцкай тэкстыльнай прамысловасьці, крызісны стан дрэваапрацоўчай прамысловасьці, павольнае заміраньне Вільні, вялікая армія беспрацоўных гораду і вёскі,—усё гэта малюнкі сумнай рэчаістасьці сучаснага становішча Заходняй Беларусі, якая стогне пад цяжарам фашыцкай дыктатуры.**

**Крык і енк нясецца з таго боку мяжы, дзе польская жандармэрыя сьвята выконвае загад былога камандуючага польскім войскам на Беларусі генэрала Шэптыцкага: „дзеля ратунку, хоць аднаго польскага афіцэру я гатоў спаліць усю Беларусь".**

**Калі Мураўёў-вешацель гаварыў, што трэба: „заваяваць Беларусь для Расіі рускім самаварам", г. зн. рускай культурай, дык польская шляхта ў большасьці, адмаўляючы права беларускага працоўнага народу на існаваньне, імкнецца бізуном і шыбеніцай прымусіць працоўных Заходняй Беларусі прыняць на веру словы паноў.**

**Зьмяніліся часы, зьмяніліся гады. Другі твар набыў ужо працоўны рабочы селянін Заходняй Беларусі, а таксама і Польшчы. Ня так ужо і лёгка аблапошыць яго. Больш за ўсё польскія паны зараз і баяцца свайго ўласнага рабочага, свайго ўласнага селяніна, якім прыклад БССР, УССР, усяго СССР паказвае, што без паноў можна лягчэй жыць. Таму польскія паны разумеюць, што пакуль будзе існаваць БССР, ня спыняцца хваляваньні супроць фашыцкай дыктатуры ў Заходняй Беларусі, бо працоўныя масы заўсёды будуць імкнуцца вызваліцца ад панскага ўціску. Гэтым і тлумачыцца тое, што польскія паны пропагандуюць вырашэньне нацыянальнае проблемы ў такім напрамку, што не Заходнюю Беларусь трэба далучыць да Савецкай Беларусі, а наадварот, што Менск аж да Смаленску трэба далучыць да... Польшчы. Паслухаем, што гавораць польскія абшарнікі:**

**„Аддаючы СССР усю карэнную беларускую тэрыторыю, мы пазбавіліся магчымасьці здаволіць беларускія нацыянальныя амбіцыі. Калі-б мы мелі Магілеў і Менск, то мы маглі-б дапамагчы беларусам дасягнуць аўтономнага становішча**

**за беларусамі права закладаньня прыватных школ і выхаваўчых установ, дабрачынных і грамадзкіх інстытуцый; § 9—аб абавязку Польшчы рабіць адпаведныя палёгкі, каб у гарадох і акругах, населеных у значнай частцы грамадзянамі ня польскай мовы—навука ў школах выкладалася на роднай мове і каб усялякія ўстановы гэтае нацыянальнасьці мелі аднолькавае права карыстацца дапамогай з боку дзяржаўнага бюджэту. Урэшце, гэты трактат загадваў, што, „ніякі закон, ніякае распараджэньне, ніякая ўрадавая дзейнасьць у Польшчы, якія пойдуць супроць пералічаных прынцыповых пастаноў, ня будуць мець сілы".**

**Рыскі дагавор § 7: „Польшча абавязваецца забясьпечваць асобам беларускай і інш. нацыянальнасьцяй усе правы, гарантуючы свабоднае разьвіцьцё іх культуры, мовы і выкананьне рэлігійных абрадаў, яна гарантуе ў межах унутранага законадаўства правы гэтых нацыянальнасьцяй культываваць сваю родную мову, організоўваць і падтрымліваць свае родныя школы, разьвіваць сваю культуру і ствараць з гэтаю мэтаю таварыствы і саюзы".**

## НІЯКІХ БЕЛАРУСАЎ

**„Беларусь, наколькі яна ёсьць і будзе польскаю, творыць непадзельную частку нашае дарагое бацькаўшчыны" (А. Рыпінскі, „Białoruś", Paryż, 1840 г.).**

**„Ні аб якім беларускім народзе ня можа быць гутаркі, бо беларусы ня маюць ніякіх уласных традыцый. Аб беларускай культуры немагчыма гаварыць дзеля таго, што няма ў іх культурнай еднасьці: гэта сфэра перакрываваньня польскіх і расійскіх уплываў. Беларусы — гэта этнографічны матэрыял, пераходная форма паміж палякамі і расійцамі" (У. Л. Студніцкі, „Sprawa polska", Poznań, 1910 г.).**

**„Вэрсальская ўмова наогул не пакідае Польшчы ніякіх абмежаваньняў у яе нацыянальнай політыцы і не прымушае яе адмаўляцца ад асыміляцыйнай політыкі" (д-р Ст. І. Лос, політычны агляд, т. 2-гі, ч. І, 1925 г.),**

**„Для таго, каб польскі народ быў вялікім, для таго, каб польская дзяржава ажыцьцявіла свае гістарычныя задачы на ўсходзе, неабходна, каб Беларусь была далучана да Польшчы як яе частка, як звычайная яе провінцыя ці проста—як колёнія". (Ул Студніцкі, 1919 г.).**

## УТАПІЦЬ У КРЫВІ

**„На нашых крэсах пануюць фатальныя адносіны. Калі ў працягу некалькіх год ня будуць зьменены, дык мы будзем мець там агульнае ўзброенае паўстаньне. Калі мы ня ўтопім яго ў крыві, яно адарве ад нас некалькі провінцый... На паўстаньне ёсьць шыбеніца—і больш нічога. На ўсё тамтэйшае (беларускае) насельніцтва зьверху да нізу павінен упасьці жах, ад якога ў яго жылах застыне кроў" („Rzecz Pospolita", ад 2/X—1925 г.).**

**„Дзяржава з новай соцыяльнай структурай знаходзіцца на Ўсходзе. І Ўсход узяў у палон душу мясцовага насельніцтва...**

**— Бывала раней, селянін пры спатканьні з панам нізка кланяўся і пакорна гаварыў: „дзень добры, паночку".**

Цяпер, пры спатканьні з абшарнікам, селянін крычыць на ўздагон: „пашоў прэч, польская морда!“ (пракурор Раўзэ на процэсе Грамады).

### НА ГАЛОДНУЮ СЬМЕРЦЬ

„Будзем гаварыць адкрыта: матэрыяльнае становішча беларускага мужыка, у параўнаньні з даваенным часам, значна пагоршылася. Я не скажу тут аб павялічэньні колькасьці едакоў на кожны гектар надзельнай зямлі, я заначу толькі тое, што да вайны Амэрыка і Расія з яе нязьлічанымі багацьцамі былі адкрытымі перад беларусам. Сёньня работы ў нас няма, выезд у Амэрыку і Расію немагчымы... Я сьцьвярджаю, што ў павеце, дзе я жыву (Віленскім), ужо ⅓ частка насельніцтва з-за адсутнасьці хлеба спажывае толькі бульбу, у паўночных-жа паветах Віленшчыны няма ўжо зусім хлеба, адначасова няма ніякіх заработкаў. Існуе, значыцца, безнадзейны голад, які можа штурхнуць кожнага ў абдымкі паўстанцаў і да змовы з бальшавікамі“ (газэта „Слова“, 1927 г.).

### НАСТРОІ..

„Яскравы абразок „крэсавых“ настрояў малюе сьведка абвінавачаньня на процэсе Грамады—маленькі бургомістр аднаго з маленькіх акрайных мястэчак:

— Падаткаў ня плоцяць, зямлі ніхто ня купляе, усе чакаюць на вясну паўстаньня.

— Калі гэта было? пытаецца абаронца Сьмяроўскі.

**Сьведка**:—зімой 1926 г.

**Сьмяроўскі**:—Ну, а цяпер як?

**Сьведка**:—Эх, пане, і цяпер ня плоцяць падатку, і цяпер таксама чакаюць паўстаньня.

**Сьмяроўскі**:—Хто?

**Сьведка**:—Усе.

### МЭТАДЫ ПАНАВАНЬНЯ

„У пачатку верасьня гэтага году арыштавалі нашых сыноў і братоў, якіх пасадзілі ў астрог у Стара-Вілейцы, дзе іх страшэнна скатавалі. Білі іх ня толькі па ўсяму целу, але па галаве, вушах і зубах. Паміж пальцаў укладалі алоўкі і сьціскалі рукі, каб прымусіць прызнацца ў прынадлежнасьці да нейкіх супроцьдзяржаўных арганізацый“. (З заявы бацькоў арыштаваных вучняў Вілейскай гімназіі).

„У памяшканьне Астара Мінчука, 65 г., прышлі два паліцыянты, запыталіся: „дзе маеш карабін?“. На адмоўны адказ Мінчука паліцыянт пачаў біць яго кастэтам, пакуль той ня ўпаў, страціўшы прытомнасьць. Калі Мінчук апамятаўся, адвялі яго на пастарунак, а пасьля вызвалілі“.

### „СВАБОДА“ ДРУКУ

„З рэдактароў газэт, што выходзілі на Віленскай 12, адбылі кары: 1) Мікалай Шыла, засуджаны па арт. 129 на адзін год суровага зьняволеньня з пазбаўленьнем правоў, прасядзеў у Лукішках—разам з незалічаным яму адседжаньнем да суду $2^1/_2$ гады; 2) Антон Войцік, засуджаны па арт. 129 і 154 на 1 год вастрогу, адсядзеў у Лукішках 1 год і чатыры месяцы; 3) Міхась Гармановіч, пакараны па арт. 129, пасядзеў у Лукішках 10 месяцаў; 4) Алесь Вільчыцкі, рэдактар „Беларускае Справы“ адсядзеў у Лукішках 6 месяцаў; 5) другі рэдактар „Беларускае Справы“—Сымон Макулік, асуджаны па арт. 129, сядзеў 10 месяцаў“.

**ў Эўропе... Мы маглі-б устанавіць фэдэрацыйную сувязь з Магілевам і Менскам, але ня з польскаю Вільняю“... „І таму,—кажа далей орган абшарнікаў, — „Слова“, — калі... знайшлася-б група беларускай моладзі, у рэчаіснасьці шчыра антыбальшавіцкай, якая-б верыла ў тое, што іх родная зямля акупавана бальшавіцкім урадам,—то, па нашай думцы, польская грамадзкасьць і нават урад павінны аказваць гэтай групе падтрыманьне... Мы будзем вельмі рады, калі Магілеў і Менск калі-небудзь адыдуць ад Саветаў, але нашым абавязкам зьяўляецца рабіць усё, каб Радашковічы, Браслаўль і Навагрудак не папалі над уплыў чырвонага Менску.**

**„Шырокае вырашэньне беларускага пытаньня магчыма толькі тады, калі мы будзем уладаць Менскам і Магілевам, тады мы можам ісьці на стварэньне беларускай дзяржаўнасьці“. („Слова“).**

**Польскія паны разумеюць, што ім ніколі ня ўдасца заспакоіць беларускія працоўныя масы, гэтак сама, як і працоўныя масы Заходняй Украіны і ўсяе Польшчы. Гэтым у значнай меры тлумачыцца, што па тым баку нашай заходняй мяжы ад Ледавітага акіяну да Чорнага мора зараз разгортваюцца падзеі вялізарнай палітычнай важнасьці. Лідэр польскіх эндэкаў Роман Дмоўскі яшчэ некалькі месяцаў таму папераджаў увесь сьвет, што пілсудчыкі актыўна рыхтуюць вайну з СССР. Гэта прымушае нас трымаць вуха востра і порах сухім, бо польскія фашыстыя ўсімі сваімі паводзінамі пагражаюць замку нашае мяжы.**

**Уся гісторыя польска-савецкіх адносін гаворыць, што савецкі ўрад заўсёды ішоў на буйныя ўступкі для таго, каб дамагацца міру. Мы свае словы заўсёды выконвалі. Але гісторыя адначасова вучыць нас таму, што грош цана слову польскіх міністраў. Чытач знойдзе ў гэтым монтажы багата дакумантаў, якія сьцьвярджаюць нашую думку.**

**Дзесяць год аддзяляюць нас ад таго часу, калі дэкляраваўшы сваё міралюбства... Пілсудзкі ганебна праваліўся з сваім авантурным паходам на Кіеў. Дзесяць год, як вольна дыхае вызваленая Чырвонай арміяй Савецкая Беларусь. Дзесяць год, як пад сьцягам комуны распростаў сваю сьпіну рабочы і селянін Савецкай Беларусі.**

**Будзем помніць сваіх братоў з Заходняй Беларусі.**

**Будзем помніць іх бяспраўны стан, іх барацьбу за права: „чалавекам звацца“. Будзем помніць для таго, каб наблізіць дзень іх вызваленьня.**

**Вялікі ангельскі гісторык Джон Сілі калісьці пісаў пра Індыю: „Калі яны жыць ня могуць, яны паміраюць. Калі яны могуць жыць як-небудзь, яны жывуць, здавальняючыся гэтым“. Гэта было стагодзьдзі назад. Зараз Індыя ўжо таксама другой зрабілася. Тым больш другая ўжо Заходняя Беларусь. Паны вельмі занепакоены тым, што мужык ужо ня хоча шапку зьняць ды ў пояс кланяцца пану. Але. Паны пазбавяцца ня толькі гэтага. Працоўныя масы Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ і КПБ пазбавяць іх наогул права на існаваньне, бо ў социялістычнай грамадзе ня будзе месца гвалтаўнікам і эксплёататарам. Месца паноў—на сьметніку гісторыі.**

**І ў наш сьвяточны дзень перагорнем некалькі старонак гісторыі для таго, каб на фактах убачыць, як паны распраўляюцца з беларускім працоўным народам у Заходняй Беларусі, хоць гэтага ім не дазваляюць іх уласныя законы, конституцыя і мірныя трактаты.**

### ПАЛЯКІ ЗА СВАБОДУ РЭЛІГІІ

„У сьвята нараджэньня найсьвяцейшай панны Марʼі, пад час сьвятой імшы з гвалтам варваўся ў праваслаўную царкву ў Новым Двары, Сакольскага павету, паліцыянт мясцовага пастарунку з шапкаю на галаве і карабінам на плячох і голасна запатрабаваў спыніць службу і ўсім пакінуць царкву, бо ён павінен яе замкнуць.

Ня гледзячы на просьбы веруючых, каб ён не перашкаджаў ім маліцца, паліцыянт упарта патрабаваў выкананьня яго загаду, і, па выдаленьні ўсіх, царква была замкнута“. (Інтэрпэляцыя ў сойме).

### „СВАБОДА“ ШКОЛЫ

„Толькі ў адным Навагрудзкім ваяводзтве было арыштавана генэралам Янушайцісам 1386 асоб, якія прыймалі ўдзел у складаньні дэклярацыі за беларускую школу“.

**Адвокат Бабянскі**: — Колькі беларускіх школ было адчынена на падставе прынятата соймам закону аб мовах на крэсах?

**Тугут**:—Я нічога ня ведаю аб адчыненьні беларускіх школ, але мне дакладна вядома, што шмат школ было зачынена і пасьля прыняцьця гэтага закону.

**Старшыня суду**:—Раз школы зачыняліся, дык вехта павінен быў іх раней адчыніць?

**Тугут**:—Але, іх адчынілі немцы ў часе окупацыі.

**Старшыня**:—Чаму школы зачыняліся ўладай?

**Тугут**:—У мяне склалася сталае ўражаньне, што была наладжана плянавая кампанія, якая мела на мэце зруйнаваньне беларускае школы наогул (Паказаньне былога лідэра партыі „Вызваленьне“ на процэсе Грамады).

### У БАРАЦЬБЕ ЗА ВЫЗВАЛЕНЬНЕ

„6-га чэрвеня 1930 г. у Вільні адбылася дэмонстрацыя юных піонэраў, у якой прымала ўдзел каля 100 дзяцей ва ўзросьце ад 5 да 13 год. Паліцыя разагнала дэмонстрантаў і арыштавала 5 дзяцей. Юным піонэрам удалося прабрацца на плошчу перад Лукіскім вастрогам, дзе яны каменьнямі выбілі шыбы ў памяшканьні турэмнай адміністрацыі“.

### ЯШЧЭ АДНА ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

„Наступіла мінута бою, і ўвесь фронт коннай арміі, які да таго быў адносна спакойны, раптам ажывае. Са ўсіх лясоў, вёсак і асобных мясцовасьцяй паказваецца праціўнік. Літаральна ў некалькі хвілін небасхіл, наколькі яго можа ахваціць вока, наваднняецца коньнікамі, якія ў вялізарным воблаку пылу, наперадзе якіх ідуць панцырнікі, прыкрытыя агнём артылерыі, тачанак і конных стралкоў, пачынаюць насоўвацца на палякаў... Польскі салдат, які вокам сочыць за хмарай пылу на флянгах, якая хутка насоўваецца на поўнач, павінен адчуваць, што ён змагаецца ў цэнтры вялізарнага колца, якое хутка зачыніцца за яго плячыма...

Накшталт таго, як вада змыкаецца, пакрываючы камень, які ўходзіць на дно, гэтак польскі фронт аднаўляецца ў тылу Чырвонай арміі. Але Будзёны мала аб гэтым клапоціцца. Ён дасягнуў сваёй першпачатковай мэты. Ён у тыле польскіх позыцый і ён ня мае і ня бачыць зараз перад сабой ніводнай часткі праціўніка, якая была-б здольна яго спыніць“ (Клеберг—палкоўнік польскай арміі—1920 г.).

# ПРОЛЕТАРЫЯТ НА ВЯЛІКАЙ



Электрастанцыя „Красный Октябрь“ у Ленінградзе.



Адзін з шматлікіх рабочых дамоў, пабудаваных у Растове н/Д на Таганрогскім проспэкце.

# БУДОЎЛІ



Нафтаперагонная трубачная батарэя сыстэмы „Пінча“, закончаная сёлета пабудоваю ў г. Грозным.



Нафтаперагонная трубчастка сыстэмы „Фостэр“, пабудаваная сёлета ў г. Грозным.
Прапускная здольнасьць—2.000 тон нафты ў суткі.

# РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ Ў КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІНАХ














**Беспрацоўе—голад—тэрор.**

З часу свайго прыходу да ўлады, „рабочы“ ўрад Макдональда падараваў ангельскаму пролетарыяту новых 500.000 беспрацоўных.

Зараз 1.100.000—1.600.000. Гэта афіцыйная лічба тых, якія атрымліваюць дапамогу. Разам з сем'ямі гэта каля $5^1/_2$ мільёнаў чалавек. А колькі мільёнаў беспрацоўных пазбаўлены гэтае дапамогі? А колькі мільёнаў рабочых працуюць 2-3 дні на тыдзень?

Спадзяваліся на вясну: але дарма. Апрача новых дзесяткаў тысяч беспрацоўных, вясна нічога не дала.

Голад, жабрацтва, галеча, бяздольнасьць, масавыя самазабойствы з прычыны голаду,—асноўны фон жыцьця сучасных ангельскіх рабочых гарадоў.

**Уверсе:** 1) Рабочыя, выкінутыя на вуліцу. Фабрыка не працуе. 2) Беспрацоўныя чакаюць абеду. **Усярэдзіне:** 3) Продаж гарачае бульбы на вуліцах Лёндану. 4) Атрымаўшы абед, беспрацоўныя тут-жа на вуліцы яго зьядаюць, каб хоць крыху зьменшыць свой голад. **Унізе:** 5) Беспрацоўныя чакаюць на дапамогу. 6) Сям'я ангельскага рабочага з 7 чалавек у адным маленькім пакоі.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар **МІХАСЬ ЧАРОТ.**

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**1930 год**

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адказны рэдактар М. ЧАРОТ

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА на

| На год | |
|---|---|
| 3 р. | — |

| На 6 м-цаў | |
|---|---|
| 1 р. | 50 к. |

| На 3 м-цы | |
|---|---|
| — | 75 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ **15 к.**

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках, і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выд-ва, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Правда“, чыгуначных і паштовых кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.



# 1920



# 1930



Менск, друк. БДВ. Зак. № 2156. Галоўлітбел № 1031